*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 16 кастрычніка 1987 г. ⊙ № 42 (3400) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

**Дзеячы культуры, літаратуры і мастацтва! Стварайце творы, сугучныя рэвалюцыйным пераўтварэнням, пафасу перабудовы! Актыўна садзейнічайце духоўнаму ўзбагачэнню грамадства!**

*(З Заклікаў ЦК КПСС да 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі).*

## ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ

### аб пленуме Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі

14 кастрычніка 1987 года адбыўся восьмы пленум Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі.

На пленуме разгледжаны арганізацыйныя пытанні.

Пленум вызваліў т. Барташэвіча Генадзя Георгіевіча ад абавязкаў другога сакратара і члена Бюро ЦК Кампартыі Беларусі ў сувязі з пераходам на іншую работу.

Пленум выбраў другім сакратаром і членам Бюро ЦК Кампартыі Беларусі т. Ігрунова Мікалая Стэфанавіча, які працаваў раней намеснікам загадчыка Аддзела арганізацыйна-партыйнай работы ЦК КПСС.

Пленум вызваліў ад пасады загадчыка аддзела культуры ЦК Кампартыі Беларусі т. Антановіча Івана Іванавіча ў сувязі з пераходам на іншую работу і зацвердзіў на гэтай пасадзе т. Вайтовіча Яўгена Канстанцінавіча.

У рабоце пленума прыняў удзел інструктар Аддзела арганізацыйна-партыйнай работы ЦК КПСС т. Мешчаракоў Г. П.

## ДЗЕЦЯМ — КЛОПАТ І ЎВАГУ

**14 кастрычніка ў Маскве, у *Калоннай зале Дома саюзаў*, адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна. Дэлегаты і госці апладысментамі сустрэлі прывітанне Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова, якое зачытаў сакратар ЦК КПСС Г. П. Разумоўскі. З дакладам аб асноўных накірунках дзейнасці Фонду выступіў старшыня яго аргкамітэта, пісьменнік А. Ліханаў.**

**Дэлегаты зацвердзілі статут Фонду. Выбралі яго кіруючыя органы. Старшынёй праўлення выбраны А. Ліханаў.**

# Дзень добры, Масква!

*Учора раніцай сталіца Радзімы ўрачыста сустракала афіцыйную дэлегацыю з Савецкай Беларусі, якая накіравала сваіх пасланцоў для ўдзелу ў Днях рэспублікі, прысвечаных 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. Напярэдадні ад'езду дэлегацыі з Мінска наш карэспандэнт сустрэўся з яе кіраўніком —намеснікам Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Уладзімірам Андрэевічам МІКУЛІЧАМ і папрасіў яго расказаць пра тое, як будзе праходзіць свята на маскоўскай зямлі.*




— ДНІ Беларусі ў Маскве на ВДНГ СССР — свята знамянальнае і своеасаблівае. Знамянальнае — бо адбываецца яно напярэдадні светлага юбілею першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы, народжанай Вялікім Кастрычнікам. І Беларусь — роўная сярод роўных у сям'і братніх народаў — трымае справаздачу аб сваім сацыяльным, эканамічным і культурным развіцці за сем дзесяцігоддзяў Савецкай улады. Я сказаў, што гэтае свята — своеасаблівае. І гэта зразумела, бо праходзіць яно ў час вялікіх пераўтварэнняў у нашай краіне, а значыць — і ў рэспубліцы, якая жыве духам перабудовы, дэмакратыі, абнаўлення. Вось чаму ў Маскве мы не проста будзем рапартаваць аб сваіх дасягненнях, якія сапраўды значныя, але і будзем *шчыра гаварыць пра нашы* праблемы, бо, як нядаўна адзначыў Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, мы сталі іншымі ў ацэнцы сваіх дзеянняў, і юбілей дзяржавы сустракаем не ў патоку пустаслоўя, а ў дзелавой, патрабавальнай абстаноўцы. Вядома, на сустрэчах у Маскве нам нельга не сказаць пра тое, што летась і сёлета выконваюць намечаныя планы работнікі ўсіх галін: прамысловасці, транспарту, сувязі, гандлю, бытавога абслугоўвання рэспублікі, што тэмпы вытворчасці прамысловай прадукцыі ўзраслі на 6,4, а прадукцыйнасць працы — на 6,1 працэнта, павысіўся культурны ўзровень народа, актывізавалася дзейнасць усіх грамадскіх арганізацый, творчых саюзаў рэспублікі. Мы раскажам масквічам і гасцям сталіцы пра тое, што ў гэтым годзе атрыманы рэкордны ўраджай збожжавых культур — па 34,6 цэнтнера з гектара, звыш 200 — бульбы, на 7 працэнтаў павялічылася вытворчасць малака, на 9 працэнтаў — мяса. Нам прыемна, што партыя і ўрад высока ацанілі працу работнікаў аграпрамысловага комплексу: нядаўна рэспубліка была ўзнагароджана Ганаровай граматай ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР, ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ за дасягненні высокіх вынікаў ва Усесаюзным сацыялістычным спаборніцтве.

І разам з тым мы не задаволены, напрыклад, тэмпамі росту якасці некаторых відаў прадукцыі, застаюцца вострымі і такія важныя праблемы, як узмацненне рэжыму эканоміі, ліквідацыя безгаспадарчасці, тэхнічная недасканаласць вытворчасці, парушэнне тэхналагічнай і працоўнай дысцыпліны... Пра ўсё гэта шчыра, без прыхарошвання раскажуць члены афіцыйнай дэлегацыі ў час сустрэч з нашымі куратарамі — працоўнымі Пралетарскага і Чырвонагвардзейскага раёнаў Масквы. Прадстаўнікі Беларусі пабываюць на аўтазаводзе імя Ліхачова, вытворчым аб'яднанні «Маскамплектмэбля», наведаюць Маскоўскае абутковае аб'яднанне «Зара», НДІ аўтапрома.

**— Хто ўваходзіць у склад дэлегацыі Беларусі?**

— У яе афіцыйным саставе — намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Мазай, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Я. Вайтовіч, кіраўнікі міністэрстваў асветы, культуры, бытавога абслугоўвання насельніцтва Л. Сухнат, Ю. Міхневіч, А. Грыб, старшыні Дзяржкіно і Дзяржтэлерадыё рэспублікі У. Матвееў і Г. Бураўкін, сакратар Белсаўпрофа С. Собалева, сакратар ЦК ЛКСМБ Т. Граблеўская, народны пісьменнік БССР В. Быкаў, прэзідэнт АН БССР У. Платонаў, народны артыст СССР, старшыня праўлення Саюза кампазітараў рэспублікі І. Лучанок, старшыня праўлення Саюза мастакоў, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР У. Стальмашонак, генеральны дырэктар ВА «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна» І. Куляшоў, старшыня Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны і працы, Герой Сацыялістычнай Працы А. Андрэеў, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня калгаса «Савецкая Беларусь» У. Бядуля, народная артыстка рэспублікі М. Захарэвіч, першы сакратар Мінскага гаркома партыі У. Галко, старшыня калгаса імя Дзімітрава Талачынскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы Л. Сіроткіна, швачка Рагачоўскага раённага камбіната бытавога абслугоўвання насельніцтва, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР В. Баханцава, механізатар калгаса «Праўда» Горацкага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы Я. Галухін, апаратчык ВА «Азот», Герой Сацыялістычнай Працы М. Дукшта і іншыя. Усяго ў складзе афіцыйнай дэлегацыі — 42 чалавекі.

**— Якія мерапрыемствы прадугледжвае рабочая праграма Дзён?**

— Адбудзецца гутарка з партыйна-гаспадарчым актывам у Пралетарскім райкоме партыі па пытаннях практычнага выканання рашэнняў чэрвеньскага (1987 г.) Пленума ЦК КПСС. Думаю, цікавай і карыснай атрымаецца дыскусія ў аб'яднаных павільёнах «Будаўніцтва» на ВДНГ СССР, дзе пойдзе гаворка пра ўзвядзенне маладзёжных жыллёвых комплексаў. У планах дэлегацыі — знаёмства з экспазіцыяй выстаўкі «70 год пад сцягам Вялікага Кастрычніка», ускладанне вянкоў да магілы Невядомага салдата, наведванне Маўзалея Уладзіміра Ільіча Леніна...

**— Раскажыце, калі ласка, Уладзімір Андрэевіч, пра культурную праграму свята.**

— Культурныя мерапрыемствы Дзён Беларускай ССР у Маскве — насычаныя і разнастайныя. Адбудуцца вялікія канцэрты мастацкіх калектываў і майстроў мастацтваў рэспублікі ў павільёнах ВДНГ СССР, Дзяржаўнай цэнтральнай канцэртнай зале гасцініцы «Расія», Палацы культуры аўтазавода імя Ліхачова. У кінатэатрах «Мінск», «Брэст», «Арбіта» масквічы пабываюць на творчых вечарах з удзелам нашых кінематаграфістаў. Рэспубліканскі дом мадэлей Мінлегпрома БССР наладзіць паказ калекцый адзення, а ў кафэ «Юбілейнае» пройдуць дні нацыянальнай кухні Беларусі... Пабываюць наведвальнікі Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі і ў «Горадзе майстроў», дзе нашы народныя ўмельцы будуць дэманстраваць свае вырабы з саломкі, гліны, дрэва, нацыянальныя музычныя інструменты. У апошні дзень свята на маскоўскай зямлі — 18 кастрычніка — вакальна-інструментальныя ансамблі «Верасы» і «Сябры» запросяць гледачоў на інтэрнацыянальнае тэатралізаванае эстраднае прадстаўленне для моладзі «Рытмы дружбы» і тэматычную канцэртную праграму «Зоркі» пад зорным небам».

**— Хто яшчэ з творчых калектываў і майстроў мастацтва будзе прадстаўляць рэспубліку на Днях?**

— Назваць усіх, вядома, немагчыма, бо ў канцэртах у Маскве будзе ўдзельнічаць больш за трыста артыстаў. У прыватнасці, салісты В. Пархоменка, Я. Пятроў, В. Кучынскі, Л. Колас, Я. Еўдакімаў, М. Гулегіна, вядучая канцэртаў — З. Бандарэнка. Сярод калектываў — Дзяржаўны акадэмічны хор БССР імя Г. Цітовіча, камерна-інструментальны ансамбль Дзяржтэлерадыё БССР, дуэт цымбалістак з філармоніі. Акрамя прафесійных выканаўцаў, у канцэртнай праграме выступяць і нашы самадзейныя калектывы — народны фальклорны ансамбль «Крупіцкія музыкі», народны вакальны ансамбль «Пралескі» Гомельскага педвучылішча, народны ансамбль танца «Радасць» з Брэста...

У заключэнне хачу сказаць вось пра што. Свае далейшыя поспехі ў эканамічным, сацыяльным і культурным будаўніцтве працоўныя Савецкай Беларусі звязваюць з мірам на зямлі. Спазнаўшы шчасце вольнай стваральнай працы, яны ў адзіным страі савецкіх народаў выступаюць за мір і сацыяльны прагрэс. Дні Беларусі, іншых рэспублік, што *прайшлі на* ВДНГ СССР, сцвярджаюць дружбу, інтэрнацыяналізм, усё тое, што нясуць у сабе ідэалы Вялікага Кастрычніка.

**— Дзякуй, Уладзімір Андрэевіч, за інтэрв'ю.**

## КНІГАПІС




М. ТАНК. Сярод лясоў наднёманскіх. Вершы і казкі. Для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1987.

**У серыі «Мая першая кніжка» перавыдадзены лепшыя творы для дзяцей, напісаныя народным паэтам Беларусі Максімам Танкам. Сярод іх — «Казка пра Мядзведзя», «Конь і Леў», «Мухамор», «Ехаў казачнік Бай» і іншыя.**

ЛЕОНИД РАШКОВСКИЙ
ОТКРОВЕНИЕ

Л. РАШКОЎСКІ. Адкрытасць. Вершы. На рускай мове. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.

**Чалавек карчагінскага лёсу, Леанід Рашкоўскі піша вершы аптымістычнага гучання, у якіх услаўляе веліч чалавека, чысціню яго пачуццяў, дружбу і сяброўства. У зборнік увайшлі лепшыя творы, якія перад гэтым змяшчаліся ў кнігах «Няхай не паміраюць зоркі», «Лівень», «Пераадоленне» і іншых. Прадмову напісаў С. Грахоўскі.**

Тарас Хадкевіч
БРАТЭРСТВА
РЭХА Ў ГАРАХ
ВЯСНЯНКА



Т. ХАДКЕВІЧ. Братэрства. Рэха ў гарах. Вяснянка. Аповесці. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.

**Аповесці Тараса Хадкевіча «Братэрства» і «Рэха ў гарах» карысталіся папулярнасцю ў пасляваенны час. У гэтых творах пісьменнік расказаў пра барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі прадстаўнікоў розных народаў, якія вырваліся з варожага палону. У аднатомнік увайшла і аповесць «Вяснянка», што ўзнаўляе жыццё беларускай вёскі ў пяцідзесятыя гады.**




У. ЯГОЎДЗІК. Стронга. Аповесць і апавяданні. На рускай мове. М., «Молодая гвардия», 1987.

**Аповесць Уладзіміра Ягоўдзіка «І паклікала я...», а таксама апавяданні перакладзены на рускую мову Валянцінай Шчадрынай. Прадмову напісаў У. Калеснік.**

КРЫТЫКА
БІБЛІЯГРАФІЯ

# УЛАСНАЕ РЭЧЫШЧА

*Т. БОНДАР. Спадчынны боль. Паэмы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.*

У БЕЛАРУСКАЙ літаратуры ёсць нямала вершаў пра паэзію. Многія з іх можна лічыць і своеасаблівымі паэтычнымі трактатамі, у якіх сцвярджаецца права аўтара на ўласны голас у літаратуры.

**Я ўпарты, не кіну пачатае справы.**
**Каменне крышу,**
**Разграбаю пяскі,**
**Пад кпіны аматараў лёгкае славы**
**Капаю рэчышча ўласнай ракі.**

Выказаная ў гэтых вядомых радках А. Куляшова думка заслугоўвае таго, каб надаць ёй ролю першачарговага крытэрыю мастацкай вартасці твора. Чытач наўрад ці знойдзе што-небудзь цікавае ў паэта, які спявае з чужога голасу. Пра «рэчышча ўласнай ракі» міжволі ўзнікае думка, калі чытаеш новы зборнік Таісы Бондар, і з задавальненнем адзначаеш, што яго матывы з'яўляюцца працягам і паглыбленнем рэчышча, напрамак якога быў акрэслены яшчэ ў ранніх вершах. У зборніку «Акно ў восень» (1972) ёсць верш «Рэха», у многім праграмны:

**Як аукнецца, так адгукнецца—**
**Перайнач!..**
**Дык чаму: засмяюся— вецер**
**Вяртае плач!**
**Дык чаму: заспяваю— рэха**
**Плача ў адказ?**
**Закрычу—ні плачу, ні смеху.**

**Дыхае час**
**Дзесьці побач...**
**Маўчанне—не ўцеха.**
**Так гарчэй удвая...**
**І смяюся, і плача рэха—**
**Рэха, не я.**

І сапраўды, Т. Бондар ніколі не захаплялася паэтычнай рыторыкай. Скразным у яе паэзіі з'яўляецца вобраз жанчыны нашага часу, жыццё якой пачалося як працяг радасці і пакут сорак пятага года:

***Я выйшла з зімы,***
**якая ў зямлянках гібела,**
**Дыханнем адтайвала хлеб з пражылкамі льду.**
**І з захаду**
**Усё яшчэ з салютамі несла бяду,**
**У косах жанок застываючы інеем белым.**
**(«Роздум»)**

Першыя пасляваенныя ўражанні і сёння вызначаюць характар духоўнай арыентацыі асобы ў вершах Т. Бондар, яе прывязанасць да тых мясцін,

**...куды нас не цікаўнасць,**
**А боль прыводзіць,**
**найсвяцейшы боль**
**На стрэчы з памяццю стагоддзяў**
**і—з сабой.**

У зборніку «Чырвоны месяц года» (1985) узнікла патрэба яшчэ раз зверыцца з першапачатковым гучаннем паэтычнага голасу. Гэта быў «самотны гук» — водгулле ў новым пакаленні перажытай народам трагедыі:

**Ён больш нагадваў боль.**
**І ўсё-ткі рос.**
**Рос так балюча, быццам быў мой лёс.**
**Я чула словы—я змагла іх скласці!**
***Яны былі ад маці.***
**З песні ўдоў.**
**З тых сноў забытых.**
**З сынавых гадоў.**
**— Зямля. Радзіма. Будучыня. Шчасце.**

Свет лірычнага перажывання ў вершах Т. Бондар пашыраўся ад зборніка да зборніка.

«Самотны гук» у душы сучаснай жанчыны, добра знаёмай з перавагамі і выдаткамі эмансіпацыі, з надзеяй на сямейнае шчасце і няпэўнасцю яго, стаў водгуллем трагічнага лёсу аднавяскоўцаў, што ў гады вайны змаглі адолець немагчымае («Кветка бяды»). Своеасаблівым камертонам для паэзіі Т. Бондар з'яўляецца таксама гераічны лёс беларускай жанчыны ў далёкім мінулым (паэма «Рагнеда»).

У новай кнізе «спадчынны боль» асэнсоўваецца на ўзроўні гераічнага. Першая частка зборніка складаецца з «кнігі песень». Песні гэтыя, аднак, не маюць нічога агульнага з сучаснай эстрадай, яны больш нагадваюць гераічныя аповесці мінулых часоў ці легенды. Тэндэнцыя наогул характэрная для сучаснай беларускай паэзіі з яе імкненнем да малой эпічнай формы, у якой часта сатыра суседнічае з патэтыкай. Песні Т. Бондар, праўда, не вызначаюцца багатай эмацыянальнай гамай, але ўсе яны прасякнуты думкай, рухам асацыяцый. Асабліва настойліва асэнсоўваецца ў творах Т. Бондар трагізм і гераіка ў лёсе беларускай жанчыны. Доля і воля — гэтыя матывы ў «Спадчынным болі» заўсёды неразлучныя, з іх распрацоўкай звязана і канцэптуальнае разуменне нацыянальнага характару. Для Т. Бондар ёсць нешта сваё, блізкае і разам з тым таямнічае, да канца не спасцігнутае ў тых фальклорных матывах, дзе гаворыцца пра гераічную самаахвярнасць жанчыны, якая гіне ў змаганні за волю. Так, напрыклад, у песні «Мёртвы груд» узнаўляецца паданне пра прыгожую Мару, якая задушылася сваёй дзявочай касою, каб не стаць наложніцай Ліхадзея. У легендзе «Свіцязь-возера» таксама жанчыны загінуўшага горада робяць свой беспаваротны выбар:

**Горад адаслаў дружыну**
**князю на падмогу—**
**абязлюдзеў: ці ж жанчыны**
**бараніцца змогуць?**
**Воям—цешыцца красою**
**і крыві напіцца...**
**Лепш бы**
***кожнай з іх касою***
**ўласнай задушыцца.**

Т. Бондар у зборніку «Спадчынны боль» ідзе на збліжэнне з дзейсным гуманізмам фальклору. «Каму вось гэту песню пакінулі вякі?— з такім пытаннем звяртаецца да сучасніка аўтарка ў песні «Снег успаміну», у якой гаворыцца пра замураваную ў сцяну, але не скораную і не зломленую панскай жорсткасцю і панскай ласкай Алесю. У трагічнай аснове фальклорных паданняў Т. Бондар бачыць спадчынную мудрасць народа, апаэтызаваны духоўны скарб, так неабходны ва ўмовах сучаснага свету, дзе адчуваецца дэфіцыт максімалізму і прынцыповай паслядоўнасці. У песні «Доля» Т. Бондар імкнецца асэнсаваць выбар Ефрасінні Полацкай з улікам перспектыўных задач адраджэння народа і асобы чалавека:

**Манастыр, яго сцены**
**стануць схронам і сховам**
**для высокіх памкненняў,**
**для высокага слова.**
**Адгукнуцца ў народзе**
**і памкненні і словы!**
**Гнёзды новых стагоддзяў...**
**Пошук ісціны новай.**

«Кніга песень»— гэта спроба асэнсаваць і паяднаць фальклорную спадчыну і дзейнасць беларускіх асветнікаў: Ефрасінні Полацкай, Францыска Скарыны, Міколы Гусоўскага, Сымона Буднага, а таксама і Ф. Дастаеўскага, радаводныя вытокі якога пачыналіся ў Беларусі. Т. Бондар імкнецца ажывіць плынь часу, які зарос «не лесам, а цяжкім маўчаннем», сказаць праўду пра мінулае, сучаснасць і будучыню народа. Вельмі характэрным з'яўляецца ў гэтым сэнсе маналог Буднага з песні «Белая літара»:

**Не, не, панове!**
**Ёсць такія словы,**
**Якія выкрываюць, нішчаць зман,**
**Якія не атруціць ваш дурман,**
**І ваш і ўсіх «намеснікаў Хрыстовых».**
**І гэтым словам—жыць.**
**У кнігах нашых.**
**У думках нашых, чыстых ад хлусні.**
**Ні нас, ні будучыню не застрашыць**
**Малюнкамі ўсясветнае разні.**
**Нашчадкі будуць з намі, а не з вамі.**

Пільна ўзіраючыся ў лёс свайго краю, дзе лес быў «тройчы ссечаны на труны і крыжы», дзе «шлях быў тройчы згублены між сненняў і вятроў», Т. Бондар імкнецца да шырокіх гісторыка-філасофскіх абагульненняў. Песня «Гон» з'яўляецца своеасаблівым абагульненнем паэтычных экскурсаў аўтаркі ў фальклор і гісторыю, спробай даць адказ на пытанне, што ёсць час.

**Поле памяці—полем збуцвелым,**
**лес гадоў—непралазны гушчар...**
**Абдзіраю *і позірк* і твар,**
**На кустоўі—ашмоццем— апратка:**
**даганяе жахлівая згадка**
**крыкам, стогнам іншых ахвяр.**
**Павярнуць? Сутыкнуцца з гайнёй?**
**Я ўжо чую, як цягнуцца рукі—**
**мноства рук!—каб хоць штосьці ад мукі,**
**ад пакутнай любові маёй**
**уварваць...**

Падобныя ёмкія вобразы-алегорыі набываюць канцэптуальную значымасць. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што не ўсе песні Т. Бондар вызначаюцца такой ёмкасцю і выразнасцю эмацыянальнай думкі.

У гераічнай песні, баладзе сюжэт звычайна вылучаецца знешняй прастатой, якая толькі павялічвае сэнсавую важкасць дзеяння. Гэтай жа мэце павінны служыць рытміка і эўфанія. Гераічныя песні, балады спакон веку былі разлічаны на слыхавое ўспрыманне. Гэтая асаблівасць уласціва ім і ў наш час. У песнях Т. Бондар дзеянне часам штучна ўскладняецца, натуральнае разгортванне драматычнай калізіі фарсіруецца ці запавольваецца нечаканымі метамарфозамі. Так, напрыклад, у песні «Сон-трава» жаданні народа ператвараюцца ў сокала, а сам сокал мільгае перад вачыма з кінематаграфічнай хуткасцю:

**Лятае сокал, стоміцца—садзіцца**
**на белы камень, насупраць начы,**
**і слухае, ці то звініць крыніца,**
**ці то звіняць харобрыя мячы.**

Падобная стылёвая эклектыка ўласціва і песні «Менеск»:

**Закрыў паўнеба цень:**
**Менеск спыніў каня, рука ўрачыста**
**ўзнялася і з глухім халодным свістам**
**цяжкая дзіда расколола дзень.**
**І—хлынула з-пад каменя рака,**
**шчэ міг—**
**і млынам стаў той камень чорны,**
**сем дужых колаў закруцілі жорны**
**гісторыі... *Якая з іх мука?!***
**Гады—на жорнах, нават не гады,**
**а камяні, што з іх павыпадалі.**

Падобныя абстрактныя канструкцыі — плён рацыяналістычнага штукарства, не больш. Разрыў паміж думкай і пачуццём сёння назіраецца ў паэзіі даволі часта. У зборніку «Спадчынны боль» гэта адчуваецца там, дзе дынаміка разлічанага на эпічнае гучанне твора парушаецца суб'ектыўнай воляй аўтара. У выніку цікавыя па задуме песні часам распадаюцца на асобныя кавалкі. Спробы сцэментаваць іх з дапамогай крытычнага каментарыя ў дужках, якім, дарэчы, Т. Бондар злоўжывае,— такія спробы станоўчага выніку не даюць: «Гэты сокал (душа народа ў вобразе яго!) — не стрэціў смерці, бо лятаў высока...». Не прыносіць плёну і штучная экспрэсія: «— Менеск!— рот раздзіраючы крычу».

Менавіта таму Т. Бондар не змагла ўвасобіць у жанр гераічнай песні добрыя задумы такіх твораў, як «Званы», «Жывая рака», «Гадзюка», у якіх начэпліванне асацыяцый амаль што на кожны радок разбурае цэласнасць вобраза.

І ўсё ж наяўнасць у «Спадчынным болі» такіх твораў, як «Нараджэнне сцяга» і «Мы родам з вайны» сведчыць аб тым, што Т. Бондар у стане пераадолець схематызм і зададзенасць. Яна ідзе шляхам мэтанакіраванага самавыяўлення мастака-грамадзяніна і патрыёта. У «Нараджэнні сцяга» ёсць яшчэ даніна абстракцыі: «Пакуль не саткана бязмежжа прасцягу, пакуль усяўладныя голад і смага апраўдваюць жорсткі закон выжывання ўсім, што між намі і продкамі ўстане...» Аднак, нягледзячы на некаторыя моўныя хібы, твор успрымаецца як шчырая патэтычная песня пра месца і задачы народа ў гістарычным руху да праўды:

**Пакуль не сатканы**
**штандары нязгоды,**
**пакуль не адчуў сябе**
**род мой народам,**
**што з годнасцю прыме**
**нядолю як долю,**
**і выстаіць, і не забудзе**
**пра волю,—**
**не вырастуць мары,**
**не ўздымуцца словы**
**над мулкай жарствою**
**шляхоў палыновых.**

Вартасць такіх паэтычных мясцін у тым, што энергія рытму падпарадкавана сцвярджэнню ідэі аб неабходнасці ўдасканалення ў народзе якасцей змагара за сваю і агульначалавечую праўду — пад «штандарам надзеі». Вось гэты клопат пра народ робіць вобраз кроснаў, што ткуць штандар, скразным і надзвычай ёмкім.

У «кнізе плачаў»— паэме «Мы родам з вайны»— Т. Бондар прад'яўляе свой рахунак мінулай вайне. (Яго прад'явіць вайне яшчэ не адно пакаленне беларусаў.) У вершах Т. Бондар жыве трывожны голас маці-грамадзянкі, і неспакой яе за заўтрашні дзень сына абумоўлены горкай памяццю мінулага. Чытачу, праўда, перашкаджае літаратурнае паходжанне вобраза Памяці, увасобленага ў абліччы дзяўчынкі. Яго ўмоўнасць успрымаецца як элемент літаратурнай гульні, хоць гэта і можна растлумачыць пошукам сродкаў абагульнення. Поспеху Т. Бондар дасягае там, дзе вылучаецца самае істотнае ў трагічным лёсе пакалення. У такіх мясцінах верш гучыць чыста і ясна, як народная песня. Так успрымаецца калыханка, з якою звар'яцелая ад гора маці гушкае на руках мёртвае дзіця.

Зборнік Т. Бондар «Спадчынны боль» адносіцца да ліку тых кніг сучаснай паэзіі, у якіх *перажыты спадчынны боль* становіцца крыніцай духоўнай чысціні і сілы.

**Аляксей РАГУЛЯ.**

КРЫТЫКА
БІБЛІЯГРАФІЯ

# У ПОШУКАХ ПРАЎДЫ ГІСТОРЫІ

*Э. Скобелеў. Сведка. Запіскі капітана Цімкова. На рускай мове. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.*

СЁННЯ, калі ідзе перабудова не толькі ў эканоміцы, але і ў духоўнай сферы, партыя ставіць задачу вярнуць народу яго гістарычны вопыт ва ўсёй яго паўнаце і навуковай аб'ектыўнасці, зыходзячы з таго, што гэты вопыт — наймагутнейшы рычаг самаабнаўлення грамадства.

У адносінах да мастацкай літаратуры гэта азначае ўсё большае выяўленне творчых магчымасцей асобы на аснове глыбейшага спасціжэння гістарычнай праўды, а значыць, выяўленне вытокаў нашага сацыяльнага аптымізму.

Грамадства пачынае глыбей дыхаць у атмасферы нявыдуманай праўды і таму шчыра імкнецца да поўных і дакладных ведаў, да самастойнага выбару з таго, што давала і дае нам мудрая гістарычная практыка.

Сярод твораў беларускіх пісьменнікаў на гістарычныя тэмы вылучаюцца творы Эдуарда Скобелева. Яго гістарычныя драмы пра Дзмітрыя Данскога, Сімяона Полацкага, Кастуся Каліноўскага і іншыя атрымалі чытацкае прызнанне.

Зусім нядаўна з цікавасцю, хоць і не без спрэчак, быў прыняты ў чытацкіх колах раман «Міраслаў — князь дрыгавіцкі». Думаецца, што крытыка яшчэ вернецца да гэтага рамана, які сцвярджае прагрэсіўныя нацыянальныя традыцыі.

І вось цяпер чытач атрымаў новы гістарычны раман Э. Скобелева «Сведка». Твор пераконвае, што мінулае існуе не само па сабе, яно жыве як свядомасць, як адчуванне пэўных сацыяльна-маральных урокаў.

Раман Э. Скобелева прысвечаны складанаму і драматычнаму перыяду ў гісторыі рускага грамадства — перыяду царавання Пятра III (1761 — 1762 гады). Аналізуючы сілы, што прывялі да крызісу рэжым Пятра III, пісьменнік прама ўказвае на масонаў. (Гэта да яго калі і рабілася, то толькі намёкамі і, вядома, са шматлікімі агаворкамі). Тэма масонства практычна была выключана з мастацкай літаратуры, хоць у апошні час і з'явіўся шэраг прыкметных публікацый па гісторыі масонства — зборнік «За кулісамі бачнай улады» (Масква, «Молодая гвардия», 1984), кнігі У. Бегуна «Апавяданні аб «дзецях удавы» (Мінск, «Навука і тэхніка», 1983), В. Малышава «За шырмай масонаў» (Мінск, «Вышэйшая школа», 1985) і некаторыя іншыя.

Раман Э. Скобелева істотным чынам пашырае ўяўленні аб масонстве, надае ім вобразна-мастацкую нагляднасць, дапамагае глыбей зразумець канкрэтную гістарычную атмасферу XVIII стагоддзя.

Першае, на што звяртаеш увагу, калі чытаеш раман, — гэта яго грунтоўная дакументальная аснова. Аўтар звяртаўся да многіх гістарычных крыніц, якія даюць звесткі пра палацавы пераварот 1762 года. Форма падачы матэрыялу — запіскі афіцэра царскай аховы — зручная тым, што дазваляе адлюстраваць не толькі панарамнае аўтарскае бачанне тагачасных падзей, але і некаторыя бытавыя дэталі.

Пытанне аб уплыве масонаў на жыццё і палітыку царскага двара — не новае, але ўсё ж не настолькі распрацаванае, каб можна было раўнадушна ўспрымаць факты, старанна сабраныя аўтарам рамана. Несумненна, пасля нядаўняга выкрыцця масонскай змовы ў Італіі, пасля з'яўлення матэрыялаў, якія засведчылі цеснае супрацоўніцтва масонаў з ЦРУ, іх ролю ў грамадска-эканамічным жыцці на Захадзе (толькі ў Англіі налічваецца больш за 800 тысяч членаў масонскіх ложаў), раман Э. Скобелева чытаецца як цікавы, надзённы палітычны дэтэктыў.

Аднак звесці раман да дэтэктыву было б скажэннем і аўтарскай задумы, і самой сутнасці твора. Перад намі мастацкае даследаванне гісторыі. Аўтар на добрым мастацкім узроўні даследаваў з'яву, сутнасць якой заставалася незразумелай, заблытанай, якая не атрымала пераканаўчага тлумачэння і ў гістарычнай навуцы — перш за ўсё з-за таго, што цяжка атрымаць сапраўдныя гістарычныя дакументы. (Масоны, як вядома, пісьмовых слядоў сваёй дзейнасці звычайна не пакідаюць, а тое, што яны падсоўваюць публіцы, — фальсіфікацыі, закліканыя ўводзіць у зман, пра што сведчыць, у прыватнасці, Я. Чарняк у кнізе «Тайныя таварыствы старога і новага часу на Захадзе»).

Галоўны герой рамана Э. Скобелева — капітан Цімкоў, чалавек, які не паддаецца ні на подкуп, ні на падман, ні на шантаж праціўнікаў росквіту і развіцця рускай дзяржавы. Цімкоў не проста занатоўвае ў сваёй памяці падзеі і факты, сведкам якіх быў. Паступова свядомасць яго абуджаецца, і ён уцягваецца ў актыўную барацьбу з тымі, хто выкарыстоўваў у сваіх карыслівых інтарэсах складанае становішча расійскай імперыі.

Капітан Цімкоў — патрыёт, ён выразна ўсведамляе сваё месца ў барацьбе за інтарэсы айчыны. Безумоўна, паняцце патрыятызму ў розныя палітычныя перыяды напаўняецца розным зместам. Аўтар гэта ўлічвае. У тых умовах, калі вярхі расійскага грамадства гандлявалі інтарэсамі Расіі, а сацыяльныя канфлікты вынштурхнулі на паверхню сілы, якія імкнуліся разбурыць назапашаныя вякамі каштоўнасці, барацьба капітана Цімкова выяўляла грамадзянскі ідэал эпохі. Яго маналогі, звернутыя да нашчадкаў, даносяць да нас шчымлівую трывогу за будучыню айчыны; у іх іскрыцца энергія прасветленага розуму, які стыхійна адшуквае шлях народнай праўды.

Прызнаюся, аднак, што як чытача мяне крыху засмуцілі фінальныя сцэны рамана. Логіка развіцця характару такая, што капітан Цімкоў павінен быў стаць на шлях больш актыўнай барацьбы, чаго б гэта яму ні каштавала. Але ён уцякае ў Запарожскую Сеч. Так, капітан Цімкоў — трагічны сімвал рускай рэчаіснасці, і ўсё ж...

У аўтарскай канцэпцыі асаблівае месца займае распрацоўка вобраза Хольберга — уплывовага саноўніка — немца, які прыбыў у Расію выканаўцам чужой і злавеснай волі. Аўтар пераканаўча паказвае, на чым грунтуецца ўлада такіх людзей: на безагаворачным падпарадкаванні соцень і тысяч радавых членаў грамадства, якія нічога не ведаюць пра іх сапраўдныя мэты.

Пісьменнік выразна паказвае складаныя і драматычныя калізіі барацьбы ў вярхах рускага грамадства, пераканаўча раскрывае перад намі той неаспрэчны факт, што царская Расія, праводзячы палітыку каланізацыі, сама з'яўлялася па сутнасці доўгія гады аб'ектам каланіяльнай эксплуатацыі з боку больш развітых еўрапейскіх дзяржаў. Гэта выяўлялася як у грабежніцкім вывазе з Расіі яе матэрыяльных багаццяў, так і ў выкарыстанні яе людскіх рэсурсаў на патрэбу палітычных махінацый двароў, якія мелі ў кіруючай расійскай камарыллі свае магутныя лабісцкія групы.

Э. Скобелеў паказвае, што Расія залежала ад інтрыг еўрапейскай палітыкі — гэта адпавядае гістарычнай праўдзе. І гэта трэба мець на ўвазе, бо цяперашні антысаветызм часткова грунтуецца і на вякамі культываваным «антырускім сіндроме», які штучна распальваўся страхам перад «рускім калосам».

Э. Скобелеў не ўпадае ў палемічныя крайнасці, якія адводзяць ад гістарычнай праўды, ён акуратна карыстаецца сваім правам на свабоду аўтарскай інтэрпрэтацыі. Эпічна-спакойна, прыхаваўшы да часу вялізны эмацыянальны запал, пісьменнік даследуе ўзаемасувязь і ўзаемаўплыў палітычных, сацыяльных і псіхалагічных фактараў гістарычнага працэсу. Аўтар не спрошчвае і сваіх герояў, не адрывае іх ад эпохі. Так, ён паказвае, напрыклад, сцэну самазабойства слугі Кандрата і яго нявесты, хоць гэтая сцэна і не на карысць чытацкім сімпатыям да галоўнага героя.

Раман Э. Скобелева актуальны ў ідэалагічным плане. У ім досыць пераканаўча паказана роля масонаў як тайнай арганізацыі сусветнага маштабу, правільна ахарактарызаваны класавы характар іх дзейнасці, выкрыты іх інтрыгі, палітычныя і фінансавыя махінацыі.

Грамадска-палітычная ацэнка дзейнасці масонаў ажно да самага апошняга часу грашыла недакладнасцю, бо ўвага засяроджвалася на павярхоўных, неістотных яе прыкметах. Так, «Савецкая гістарычная

ГЭТА-ЦІКАВА

# Наша песня на Волзе

Цяперашні Сакольскі раён Іванаўскай вобласці раней уваходзіў у так званы Кавернінскі край, і цэнтрам яго быў пасёлак Каверніна. Пачынаючы з 1982 г. фальклорная практыка студэнтаў філалагічнага факультэта Іванаўскага дзяржаўнага універсітэта праводзіцца ў гэтым самым аддаленым раёне вобласці. Выбраны для правядзення практыкі ён невыпадкова: збіральная работа тут вялася ўжо ў пачатку стагоддзя членамі Кастрамскога навуковага таварыства і была прадоўжана ў дваццатыя гады пад кіраўніцтвам выдатнага збіральніка В. І. Смірнова. У 50—60-ыя гады тут праходзілі фальклорныя экспедыцыі Горкаўскага універсітэта. Натуральна, што перад экспедыцыямі мы звярталіся да архіўных крыніц, да запісаў нашых калег, але нідзе не сустрэлі ўспаміну аб беларускіх сёлах, размешчаных на тэрыторыі былой Кастрамской губерні. Чаму даследчыкі прайшлі міма гэтай цікавай з'явы, дагэтуль застаецца загадкай. А між тым, пра беларускія сёлы, скажам, у былой Цвярской, Ніжагародскай і Вяцкай губернях, пра тое, які песенны рэпертуар беларусаў-перасяленцаў, як узаемадзейнічаюць розныя фальклорныя традыцыі, пісаў ужо ў пачатку нашага стагоддзя вядомы збіральнік і этнограф Д. К. Зяленін.

Натуральна, што песенны рэпертуар беларускіх сёлаў прывабіў нашу асаблівую ўвагу. Экспедыцыі 1982—1984 гг. далі нам магчымасць наглядна пераканацца, як адбываўся працэс узаемаўзбагачэння, узаемапранікнення нацыянальных песенных традыцый.

З апавяданняў мясцовых жыхароў нам удалося даведацца, што ў асноўным сюды, у Верхняе Паволжа, перасяляліся ўраджэнцы Віцебскай і Магілёўскай губерняў пасля вядомых сталыпінскіх рэформ, калі ў выніку масавага абеззямельвання тысячы беларускіх, украінскіх сялян рушылі ў пошуках «свабодных зямель» у Заволжа, на Урал і Сібір. У былых Юр'евецкім і Кавернінскім паветах ім абяцалі зямлю, калі ачысцяць яе ад лесу, «ад лядаў», прычым ніякіх пазык, абяцаных па закону аб перасяленцах, ім ніхто не выдаў. І елі яны лебяду, перамолатую сасновую кару. Было гэта ў 1911 г. Страшным быў гэты год для многіх з іх. Але насуперак усяму людзі выстаялі, здолелі раскарчаваць лес і сплавіць яго па Унжы, разбіць і разараць дзяляны, вырасціць першы ўраджай. У гэтай барацьбе з лесам, з уласнай галечай людзі згуртаваліся, зразумелі, што толькі разам можна пераадолець цяжкасці. Гэтаму вучылі і сваіх дзяцей. І потым, ужо ў канцы 20-ых — пачатку 30-ых гадоў калгас «Полымя» быў лепшым у Сакольскім раёне. Заснаваны ж ён быў у асноўным былымі беларускімі перасяленцамі.

І засталася, відаць, з тых страшных часоў, калі вымушаны былі ў пошуках кавалка хлеба пакідаць дом, такая «калядка»:

Зіма недалечка, зіма недалечка,
Хлеба ні кусочка, хлеба ні кусочка.
Пашыем мяшочкі, пашыем мяшочкі,
Пойдзем па кусочкі, пойдзем па кусочкі!

Усяго намі было запісана ад жыхароў сяла Ятава, Пелегава, Ябланава Іванаўскай вобласці 6 беларускіх казак, 36 песень, 18 вусных апавяданняў, 460 частушак. Вылучаюцца сярод іх традыцыйныя лірычныя песні, балады і каляндарная абрадавая паэзія, якая выяўлена купальскімі, масленічнымі і троіцка-семіцкімі песнямі. Асабліва поўна і маляўніча прадстаўлена ў нашых запісах традыцыйнае беларускае вяселле (9 варыянтаў). Яго да гэтага часу спраўляюць з захаваннем традыцыйных велічанняў, лірычных песень, з наказамі маладым і прыслоўямі дружкі. Несумненна, у вяселлі прысутнічаюць і рысы кантамінацыі, паўплывала на яго і рускае вяселле, але касцяк, аснова захаваліся.

У лірычных беларускіх песнях таксама, як і ў рускіх, захоўваецца традыцыйнае супрацьпастаўленне маці і жонкі, і нам удалося запісаць шэсць варыянтаў цудоўнай песні «Дарожка, дарожка, а ты шырокая». На традыцыйнае пытанне, хто даражэй, сын адказвае:

Ой, маці, мая маці,
Нашла, што пытаці!
Жана міне люба,
Люба для савета,
Маці ж міне люба,
Любей усяго света!
Яна ж міне насіла,
У бога прасіла,
Яна ж міне гадувала
І гора прынімала!

Гэта драматычная сітуацыя стане зразумелай, калі ўлічыць, як у той час гадаваліся

# ЧАСОПІСЫ Ў КАСТРЫЧНІКУ

## «ПОЛЫМЯ»

Пад рубрыкай «Мы дружбай навечна з'ядналы» змешчаны матэрыялы, прысвечаныя 70-годдзю Вялікага Кастрычніка: артыкул А. Вялюгіна «У лучнасці братняй», апавяданні і вершы пісьменнікаў саюзных рэспублік.

Чытачы пазнаёмяцца з вершамі П. Панчанкі, Я. Янішчыц, В. Ракава, заканчэннем рамана В. Коўтун «Крыж міласэрнасці».

У раздзеле «Публіцыстыка. Нарыс» выступаюць Э. Улдукіс — «Стаяла ў лесе вёска...» (пер. з літоўскай Я. Кісялёвай) і М. Зяньковіч — «Зямля пад ліпамі».

«Нялёгкія дарогі кнігадруку» — артыкул А. Каўко.

Пра інтэрнацыянальныя аспекты літаратурных узаемасувязей разважае У. Гніламёдаў — «Яна нас аб'ядноўвае, збліжае, натхняе...»

Кнігі рэцэнзуюць П. Місько («Само слова гаворыць» Ф. Янкоўскага), І. Чарота (зборнік О. Жупанчыча «У вечным дазоры» ў перакладзе Н. Гілевіча).

## «МАЛАДОСЦЬ»

У паэтычным раздзеле — вершы В. Аколавай, В. Шніпа, Л. Рублеўскай, Ю. Свіркі, У. Скарынкіна, М. Трафімчука.

Змешчаны апавяданні У. Сцяпана, М. Дубоўскага, Я. Гучка, заканчэнне рамана М. Кацюшэнкі «Урок маўчання».

Сярод іншых матэрыялаў — артыкулы Л. Лыча «На скрыжаваннях эпох», У. Мехава «Далучэнне», нарыс М. Зяньковіча «Рэйкі даўжынёю ў паўтараста год».

У фотарэпартажы В. Ждановіча «Літавец» расказваецца пра трагедыю вёскі, спаленай фашыстамі, і пра мемарыяльны ансамбль, узведзены на яе месцы.

Кнігу Г. Бураўкіна «Пяшчота» рэцэнзуе Ю. Багданаў — «На вятрах жыцця».

## «БЕЛАРУСЬ»

Шэраг матэрыялаў расказваюць аб працоўных справах у дзесятай пяцігодцы.

Публіцыстычны роздум Х. Лялько «У адной вёсцы, у адным раёне» прапануецца пад рубрыкай «Актуальны погляд».

Друкуюцца вершы В. Гардзея, А. Пісьмянкова, навелы Ф. Янкоўскага, працяг гістарычных сцэн І. Шамякіна «Стратэгія», творы ўзбекскага паэта М. Саліха.

В. Няфёдаў гутарыць з індыйскай пісьменніцай А. Прытам — «Жанчына і літаратура».

У раздзеле «Палітычны глобус «Беларусі» — урывак з рукапісу кнігі палітычнага агляадальніка Дзяржтэлерадыё СССР У. Цветава «Ашуканыя» — «Парк Ёэгі сёння і трыццаць гадоў таму».

Г. Шупенька разглядае Збор твораў М. Лынькова ў васьмі тамах, С. Шушкевіч расказвае пра сваю працу ў Сібіры.

Сярод іншых матэрыялаў — нарыс В. Лапіна «Каханне і эміграцыя», нататкі хакейнага балельшчыка П. Якубовіча «Сола для клюшкі з шайбай».

## «НЁМАН»

Нізку вершаў Р. Барадуліна «Сцяжына зямная» пераклаў Б. Спрынчан. Ёсць таксама падборка «З паэтычных сшыткаў».

У раздзеле прозы — працяг рамана І. Шамякіна «Зеніт» (пер. Т. Шамякінай) і заканчэн-

энцыклапедыя» (1966 г.) вызначыла масонства як «рэлігійна-маральны рух», зазначыўшы, што «масонства існуе ў шэрагу краін Заходняй Еўропы і Амерыкі, аднак прыкметнай грамадскай ролі не адыгрывае». Гэта, канечне, ніяк не адпавядае фактычнаму стану. Роля масонаў у перавароце Піначэта ў Чылі, выкрыццё масонскай змовы ў Італіі, масонскі характар «Більдэрбергскага клуба», які аказвае магутны ўплыў на палітыку правячых імперыялістычных колаў, і іншыя факты дазваляюць зрабіць прынцыпова іншыя высновы.

Палацавы пераварот 1762 года ў рамане Э. Скобелева не прадстаўлены выключна як справа масонаў. Аўтар не паўтарае памылкі сваіх папярэднікаў, не імкнецца да сенсацыйнасці ў ацэнцы асобы Пятра III, як гэта робіць, напрыклад, В. Саснора ў аповесці «Выратавальніца айчыны». У рамане Э. Скобелева дадзена правільная класавая ацэнка расійскага абсалютызму, выяўлена яго антынародная сутнасць.

У гістарычным рамане, як я разумею, павінны ўзнаўляцца не толькі і не столькі факты, колькі псіхалогія ўзаемаадносін людзей мінулага. Трэба сказаць, што Э. Скобелеў паспяхова справіўся з такой задачай. У творы дакладна перададзены каларыт эпохі і асяроддзя, у якім жывуць і дзейнічаюць героі. Мы адчуваем асаблівасці мовы, якая існавала ў часы Ламаносава, але выяўлена была крыху пазней ва ўзорах, пакінутых нам, напрыклад, у выдатнай прозе Васіля Нарэжнага і ранняга Гогаля.

Раман Э. Скобелева «Сведка» ўздымае вялікі пласт нашай гісторыі. Ён адлюстроўвае драматызм эпохі, і таму матэрыяльны свет, узноўлены пісьменнікам, успрымаецца як жывы, у руху, а духоўныя каштоўнасці гэтага свету — блізкія і зразумелыя нам, сучасным людзям.

**М. СТАШКЕВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**дзеці, колькі іх памірала малымі. У тых умовах менавіта песня давала сілу, аптымізм, надзею на лепшае. Песня з яе дасціпнасцю, хітраватасцю, з яе этычнымі і эстэтычнымі ідэаламі. Асабліва выразна гэта адчуваецца ў велічальных песнях зімовага і вясенне-летняга цыкла. У купальскіх песнях, запісаных намі, сустракаюцца сітуацыі, *блізкія да казачных:* тры разы хлопец скача за вянком і толькі на трэці раз яму ўдаецца перахапіць яго. Магчыма, *гэта было звязана з традыцыйным* перакідваннем вянкоў праз купальскае вогнішча. Запісаныя намі беларускія песні і казкі сведчаць аб тым, што традыцыйны фальклор прадаўжае жыць і ва ўмовах іншамоўнага асяроддзя. І тыя песні, абрады, казкі, якія нам удалося сабраць у патомкаў перасяленцаў, — яскравае сведчанне важнасці народных традыцый, іх эстэтычнага і этычнага прызначэння ў нашы дні.**

**В. СМІРНОЎ,**
**дацэнт кафедры рускай літаратуры Іванаўскага дзяржаўнага універсітэта.**

**не рамана В. Канінга «На мове полымя» (пер. з англійскай В. Савава).**

**«Ленін, Кастрычнік, культура» — артыкул З. Бражнікавай і А. Карлюка.**

**Чытач пазнаёміцца з нататкамі М. Сердзюкова аб дзяржпрыёмцы «У канцы лаяльнасці».**

**Аб развіцці дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва разважае Э. Пугачова—«Рэч і прастора».**

**Артыкул М. Мушынскага «Літаратура як фактар абнаўлення» друкуецца ў раздзеле «Літаратурная крытыка».**

**З рэцэнзіямі выступаюць Д. Чаркасава («Гняздо для птушкі радасці» Г. Бураўкіна), Г. Шупенька («Дзейныя асобы» Я. Будзінаса), Я. Саламевіч («Пара сталасці» У. Сакалоўскага).**

**ВІНШУЕМ**

# Мікалаю ЧАРГІНЦУ—50

17 кастрычніка спаўняецца 50 год пісьменніку Мікалаю Чаргінцу. З гэтай нагоды праўленне СП БССР накіравала юбіляру прывітальны адрас, у якім гаворыцца:

**«Дарагі Мікалай Іванавіч!**

**У дзень Вашага 50-годдзя шлём Вам нашы шчырыя віншаванні.**

**Распачаўшы творчую працу больш дваццаці гадоў назад, Вы занялі ў жанры прыгодніцкай літаратуры адметнае, своеасаблівае месца. Вострасюжэтны жанр—любімы жанр мільёнаў чытачоў усіх узростаў. Разам з тым дэтэктыўная займальнасць тоіць для літаратара прафесійную небяспеку, дзе, забыўшыся на стварэнне вобразаў, лепку характараў, можна збіцца на апісальніцтва ці паграшыць перад жыццёвай праўдай.**



**Вы супрацоўнічаеце ў праваахоўных органах даўно і паспяхова, прайшоўшы па ўсіх службовых прыступках шлях ад оперупаўнаважанага райаддзела міліцыі да начальніка Беларускага ўпраўлення МУС СССР на транспарце, дзе цяпер працуеце. Кандыдат юрыдычных навук, заслужаны работнік МУС СССР. Вашы кнігі, як правіла, напісаны на фактычным матэрыяле. Большасць літаратурных герояў мелі і маюць сваіх рэальных прататыпаў. Таму яны *падкупляюць праўдзівасцю.* За вострынёй сюжэта, які Вы ўмееце будаваць, вымалёўваюцца і застаюцца ў памяці многія і многія героі кніг. Усё. напісанае Вамі мае значны выхаваўчы характар, арыентуе, асабліва моладзь, на правільны выбар жыццёвага шляху. Гэта кнігі аповесцей і раманаў: «Чацвёрты след», «Трывожная служба», «Фінал «Краба», «Следства працягваецца», «Служба — дні і ночы», «Вам — заданне», «За секунду да стрэлу», «Загад № 1».**

**Нядаўна Вы вярнуліся з трохгадовай камандзіроўкі ў Дэмакратычную Рэспубліку Афганістан. Там Вы перадавалі свой багаты службовы вопыт калегам па прафесіі, мужна і дастойна выконвалі інтэрнацыянальны доўг савецкага грамадзяніна.**

**Гэтая працяглая і небяспечная камандзіроўка для Вас, як для творчага чалавека, не прайшла безвынікова. Вы напісалі раман «Тайна Чорных Гор» пра мужную барацьбу *афганскага народа за* поўную перамогу ідэй Красавіцкай рэвалюцыі, дапамогу савецкіх грамадзян - інтэрнацыяналістаў, пра гнюсную ролю імперыялізму ў тым, што на шматпакутнай афганскай зямлі ўсё яшчэ ліецца кроў. Вашы баявыя справы адзначаны ордэнам Чырвонага Сцяга, афганскім ордэнам «Чырвоны Сцяг». Акрамя гэтага, Вы ўзнагароджаны двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, многімі медалямі.**

**Вы прымаеце актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, былі членам райкома партыі, дэпутатам райсавета, актыўна прапагандуеце лепшыя набыткі літаратуры.**

**Жадаем Вам, дарагі Мікалай Іванавіч, моцнага здароўя, вялікага асабістага шчасця, новых цікавых кніг».**

Супрацоўнікі штотыднёвіка далучаюцца да гэтага віншавання.

*Надрукавана ў «Нёмане»*

# РЭХА ЧОРНЫХ ГОР

Пры заканчэнні рамана Мікалая Чаргінца «Торгар—Чорныя Горы» — лаканічнае паведамленне: «Кабул. 1985—1986 гг.» Пісьменнік належыць да тых, хто выконваў свой інтэрнацыянальны абавязак у Дэмакратычнай Рэспубліцы Афганістан. У творы — часцінка ўражанняў ад знаходжання ў краіне, якая сёння з-за ўмяшання імперыялістычных заправілаў — у першую чаргу Злучаных Штатаў Амерыкі — перажывае цяжкія дні. Як і трэба было чакаць, аўтар не абмяжоўваецца адлюстраваннем і аналізам падзей, да асобных з якіх меў дачыненне па абавязку службы. Раман «Торгар — Чорныя Горы» — шматпланавае палатно, у якім прасочваецца нелегальная дзейнасць замежных разведак і паказваецца, як афганскі народ дае адпор знешнім і ўнутраным ворагам.

Асноўнае месца ў рамане займае лёс Карла Ота, гэтага педантычнага заходняга немца, які даў згоду ўцягнуць сябе ў разведвальную авантуру: «Будучы ваенным у трэцім пакаленні (яго бацька, падпалкоўнік Генеральнага штаба, паплаціўся жыццём за ўяўнае пакушэнне на фюрэра), Карл Ота аднолькава недалюбліваў як дыпламатаў, так і разведчыкаў. Чаму ж тады звязаўся з тымі і з другімі?» (Тут і далей пераклад мой. — **А. М.**). Згадзіўся, бо дбаў аб далейшай ваеннай кар'еры — згода «абяцала яму адну, а то і дзве зорачкі на пагонах». Засылаецца Карл Ота ў Афганістан пад выглядам журналіста. Сфабрыкавана адпаведная легенда на той выпадак, калі трапіць у палон. Маўляў, даўно цікавіцца гісторыяй калісь магутнай Кушанскай імперыі, нават марыць адшукаць магілу Аляксандра Македонскага.

Але сапраўдная місія Ота далёка не мірная. Ён адзін з ваенных замежных саветнікаў, хто дапамагае фарміраванню новага, ісламскага ўрада Афганістана, які мяркуецца размясціць у раёне Чорных Гор — непрыступнай мясцовасці, дзе пражывае не менш трохсот тысяч чалавек.

Хто знаёмы з папярэднімі творамі М. Чаргінца — аповесцямі з жыцця крымінальнага вышуку «Следства працягваецца», «Фінал «Краба», «Загадка маёра Ветрава» і іншымі — не мог не ацаніць веданне аўтарам законаў прыгодніцкага жанру і адначасова ўменне няблага выпісваць чалавечыя характары. Аднак у рамане «Торгар — Чорныя Горы» пісьменнік выступае крыху ў іншай ролі.

У новым творы таксама ёсць драматычныя сітуацыі, вострыя сюжэтныя калізіі, і ўсё ж яго да прыгодніцкіх раманаў аднесці нельга. Сказана гэта не дзеля таго, каб супрацьпаставіць паміж сабой розныя жанры, пры гэтым адводзячы жанру прыгодніцкаму другарадную ролю. Дарэчы, крыху дзіўным прагучала нядаўняе сцвярджэнне Эсфір Гурэвіч («На скрыжаванні часоў», «ЛіМ», 4 верасня 1987 г.), што «для прыгодніцкіх твораў пытанне аб жыццепадобнасці не паўстае наогул, бо тут дзейнічаюць законы ўмоўнасці». Маўляў, усё ад рэальнасці вельмі і вельмі далёкае. Толькі як у такім разе быць з прыгодніцкімі творамі, у якіх дзейнічаюць героі рэальныя, скажам, легендарны савецкі разведчык Леў Маневіч з «Зямлі, да запатрабавання» К. Вараб'ёва. І тут «пытанне аб жыццепадобнасці» «не паўстае наогул»?

Праўда, мы крыху адышліся ад прадмета гаворкі. Проста хочацца асабліва падкрэсліць той факт, што ў рамане «Торгар — Чорныя Горы» М. Чаргінец, не адмаўляючыся ад сябе ранейшага, шмат у чым пашырае абсягі сваёй творчасці, выходзячы на тыя пласты жыцця, якія часам знаходзяцца па-за ўвагай літаратуры. У гэтым сэнсе асаблівую значнасць набываюць вобразы Карла Ота, а таксама тых, хто разам з ім, прыкрываючыся дэмагагічнымі разважаннямі аб правах афганскага народа, абвастраюць супярэчнасці ва ўнутраным жыцці краіны, перашкаджаюць хутчэйшаму вырашэнню сацыяльных, грамадскіх і палітычных праблем.

У групе Ота ёсць і журналісты, французы П'ер Канью і Мірэй Рышар, але што ўяўляюць сабой гэтыя гангстэры ад сродкаў масавай інфармацыі, няцяжка здагадацца. Іх сапраўдная сутнасць асабліва раскрываецца ў тым, як яны рыхтуюць чарговы матэрыял. Па адладжанаму замежнаму сцэнарыю душманы інсцэніруюць «зверствы рускіх»: пераапрануўшыся ў савецкую форму, забіваюць мірных жыхароў. У гэты момант, «журналісты, у тым ліку і Рышард, уладкаваўшыся на камянях, фатаграфавалі і здымалі ўсё гэта на кінаплёнку».

Мікалай Чаргінец піша палітычны раман, выкрываючы дзялкоў ад палітыкі, усіх гэтых ота, канью, мірэй, для якіх няма нічога святога, а паўсядзённая дзейнасць даўно падначалена жоўтаму д'яблу. Ды і ў маральных адносінах яны далёка не святошы. Тая ж Мірэй Рышар, якая любіць успамінаць пра мужа і сына, што засталіся ў Францыі, лёгка сходзіцца з Ота і прама прызнаецца: «Слоў няма, заплацяць мне добра, салідную суму называлі, плюс амерыканцы... абяцалі харошы ганарар». Слёзы гэтай палітычнай дамачкі пасля чарговай аперацыі з мірнымі афганцамі нічога не каштуюць, бо яны — кракадзілавы, і сама Мірэй перад правакацыяй паслядоўна занатоўвала ўсё, каб... праўдзіва адлюстраваць у друку падзеі ў Афганістане.

Што ўжо казаць пра прафесіянальных разведчыкаў — Майкла Джэксана, што рыхтуе атрады контррэвалюцыянераў, Вілі Брукнера, для якога забойства даўно стала прафесіяй, Анвара Джара, прадстаўніка спецслужбы «Сакхар», і іншых?! «Чужыя» і «свае» аднолькава пачуваюць сябе няблага, бо адразу знаходзяць агульную мову і сродкі, калі справа тычыцца вырашэння далёка ідучых палітычных амбіцый. Дзейнасць гэтых «барацьбітоў» за правы чалавека, за свабодны, ісламскі, не камуністычны Афганістан раскрываецца М. Чаргінцом з пранікненнем у саму сутнасць падзей, з разуменнем складанага становішча Дэмакратычнай Рэспублікі Афганістан.

Пісьменнік з цеплынёй малюе вобразы тых, хто ўсвядоміў — будучыня Афганістана ў яго руках, і за заўтрашні дзень неабходна змагацца, не шкадуючы жыцця. Капітан Ашраф — з падобных людзей. Здавалася б, пісьменнік стрымана, не паддаючыся асаблівым эмоцыям, стварае гэты вобраз. Ды нездарма кажуць: добрае відаць адразу. Ашраф як асоба і грамадзянін нарадзіўся дзякуючы рэвалюцыйным пераўтварэнням, якія адбываюцца ў яго краіне. Удаўся таксама аўтару вобраз Саіда Хакіма — прадстаўніка сённяшняй афганскай моладзі.

Пісьменнік не абмінае ўвагай дапамогу, якую аказваюць афганскаму народу воіны абмежаванага кантынгенту Савецкіх Узброеных Сіл. Разам з атрадам Ашрафа пастаянна ўзаемадзейнічаюць сапёры, што знаходзяцца пад камандаваннем капітана Фаменкі. Бывалы афіцэр, ён не толькі добра ведае сваю справу, але і арыентуецца ва ўнутраных падзеях у краіне, лёгка знаходзіць належныя кантакты з афганцамі.

Наогул, у рамане, згодна аўтарскай задумы, дзейнічаюць персанажы, якія знаходзяцца на розных ступенях службовай лесвіцы: ад радавых байцоў да генерала Аўзалі Сайфула, які ўзначальвае камандаванне царандоя Кабула. Гэта, безумоўна, ускладніла сюжэт твора.

Несумненна, усё гэта прымальна, калі не шкодзіць мастацкасці твора. Майстэрства аўтара і заключаецца ў тым, каб даць належную інфармацыю, не ператварыўшы раман у ... расцягнутую інфармацыю. На жаль, аўтару не заўсёды ўдалося захаваць пачуццё меры. У дыялогах персанажаў, у маналогах асобных з іх нямала гаворыцца пра расстаноўку класавых і партыйных сіл у Афганістане, пра становішча з рэлігіяй, пра адносіны афганцаў да пытанняў шлюбу і сям'і. Поруч ледзь не раскрываюцца метады работы замежных спецслужб, расказваецца пра падрыхтоўку дыверсантаў, абучэнне душманаў...

Пра гэта, канечне, таксама неабходна паведамляць, але не так прамалінейна, як гэта робіцца ў рамане. Асобныя выказванні ледзь не ператвараюцца ў далёка не лепшыя перадавыя артыкулы нядаўняга часу.

«Торгар — Чорныя Горы», як вядома, не першая мастацкая кніга, у якой адлюстраваны падзеі, што адбываюцца ў Дэмакратычнай Рэспубліцы Афганістан. Аднак журналісты і пісьменнікі нашай рэспублікі ў асноўным абмяжоўваліся нарысамі пра асобных воінаў-інтэрнацыяналістаў і камандзіраў. Тым больш прыемна, што такая кніга нарэшце з'явілася і ў нас. Няма сумнення, што яна саслужыць сваю добрую службу ў інтэрнацыянальным выхаванні.

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

### Таццяна ДЗМІТРУСЁВА

●

Наляцела навальніца:
Грох ды грох.
Град на сцежках мітусіцца,
Як гарох.

Наляцела навальніца:
Любата!
Заранiц пагляд свіціцца
Тут і там.

Наляцела навальніца
На мяне.
Да цябе б мне прытуліцца.
Але ж не...

●

Ціхім вечарам
ціха
спявала лістота.
Паўз акна майго
ціха
ішла адзінота.

Мо здалёку ішла
і стамілася, пэўна,
і прысела яна
пад лістотаю спеўнай.

А пасля адзінота
і сама заспявала.

Ды ад песні яе
Весялей мне не стала.

### Зінаіда ДУДЗЮК

## *Мы*

Як ні крычы,
Ні бі сябе ў грудзі,
Без нас з табой
Не спыніцца жыццё.
Усё гэтак жа
Спяшацца будуць людзі
Па праўду,
Па любоў,
Па адкрыццё.

Не збіцца б з кроку
У гэтым вечным руху,
Мы толькі міг,
І наша права ў тым,
Каб непамерны
Браць цяжар на рукі
І несці да святла і дабраты.

## *Анюта*

Астыў сняданак некрануты,
Самлеў нячэплены абед.
Сядзіць ля веснічак Анюта,
І ёй не любы белы свет.
«Звяла нявестка сына з хаты.
Чаму ім тут было не жыць?
А вось сабрала дзетак, латы —
І супраць слова не кажы —
Пайшла ў саўгасную кватэру.
А сын за дзецьмі ды за ёй.
Цяпер не грукнуць лішне
дзверы
У самотнай хатачцы маёй.

Адна сыночка гадавала.
Мужык застаўся на вайне.
Ці мала ліха я спазнала?
Ды, пэўна, мала яшчэ мне.
Калі і дзе было такое,
Каб не трымаліся бацькоў,
Хаціны роднае, святое,
Нібы цыганская ў іх кроў.
Не я адна, ва ўсіх суседзяў
Дзяцей па свеце не сабраць.
Другі дамоў зусім не едзе.
Ці ад бяды? Ці ад дабра?
Жывіце, дзетачкі, жывіце,
Мо як адолею нуду.
Вось клікну ў прымы дзеда
Міцю...
Ці хату цэглай абкладу?...»

### Святлана КАРОБКІНА

●

У крылах маіх і твая сіла,
Мама,
У словах тваіх і твае словы,
Мама,
У праўдзе маёй і твая праўда,
Мама,
У самоце маёй і твая самота,
Мама.

●

І мне давяралі ключы,
І я не збіралася красці,
Баялася нізка упасці, —
Тады ўжо крычы, ні крычы...

І мне спавядалі душу:
Даверліва, ціха, ўрачыста, —
Бо ведалі, не прытушу
Агеньчык гарачы, сръбрысты...

І мне налівалі віны,
Піла я яе, як умела, —
Той слоік паўнюткі, шкляны
Другому аддаць не хацела.

### Іван ЛЕТКА

## *Я помню год сорак чацвёрты*

*Незабыўнаму настаўніку Уладзіміру Васільевічу ХОМЧЫКУ*

Я помню год сорак чацвёрты
і вераснёўскі звонкі дзень.
У шынялі старым пацёртым
сялом настаўнік наш ідзе.
Арліны позірк, твар схуднелы.
За ім па вёсцы наўздагон




### Яўгенія ЯНІШЧЫЦ

# Дарагі Іван Паўлавіч

ГЛЫБОКІМ жнівеньскім вечарам балюча ўдарыла ў самае сэрца нечакана скрушная вестка па радыё. Іван Паўлавіч?!.

Удваіх у прасторнай хаце, мы з мамай яшчэ не спалі (хоць і сабраліся). Кожная ў думным прыцемку, думала, відаць, пра сваё. Яшчэ зусім нядаўна я шчасліва «вырабілася» з-пад машыны. Толькі дзве чорныя кульбы-міліцы, што стаялі ля ложка, жахліва гаварылі аб тым, што магло б здарыцца... (Божа, і калі я перастану куды-небудзь спяшацца: туды ж не спяшаецца ніхто)! І туды мы ўсё ж прыходзім — хто калі, хто ў які непрадбачаны час! Над смерцю я ніколі яшчэ не задумвалася так, як з таго дня, калі непрадбачана пахавала бацьку. Яму было 54 гады.



На радзіме. Іван МЕЛЕЖ. 1974 год.

Фота Ул. КРУКА.

Пасыпаўся дождж, страсянуў шыбіны вокан гром. Перажагналі пакой частыя маланкі. А тут — і святло «выбіла». Запалілі свечку. Цьмяна-ружаватае святло ад яе суладна злівалася з нашай, сіроцка-зажуранай цішынёю.

— Дык, кажаш, Мележ памёр? — азвалася спагадлівая мама.— Нядаўна ж яшчэ, толькі ўчора, глядзелі яго па тэлебачанню. Гадкоў, пэўне, 50?

— 55.

— Малады ж яшчэ мужчына, жыць бы яшчэ ды жыць,— уздыхнула спрацаваная мама і папpавіла на стале абгарэлы, тоненькі кнoцік свечкі.—Во, і ў нашай вёсцы адыходзяць не ў час. Што ні кажы, а мужчыны паміраюць першымі.

Дождж нарастаў. Урадлівыя яблынькі за акном прымусова страсалі з тонкага голля яшчэ даволі чэпкія плады.

— А такі лівень, такі няшчадны лівень,— уздыхнула занепакоена мама.— Баюся: самае высокае, самае буйное жыта пакладзе...

Самае высокае, самае буйное
жыта...
Мужчыны паміраюць
першымі..
Жыць бы яму яшчэ ды жыць...

Жыць бы яму яшчэ ды жыць — гэтак падумаў кожны харошы чалавек, каго аглушыла гэтая неспадзяваная, непатрэбная смерць.

Ішоў, не пераставаў як не ўсяночны дождж. А можа, гэта плакала не толькі неба, але і ўсе спагадныя, усе добрыя людзі, якія ведалі і любілі Мележа.

І сапраўды: толькі, толькі ж зусім нядаўна!— глядзела яго творчы вечар па тэлебачанню, які бліскуча вёў Ніл Гілевіч. Глядзела на задуменна журлівага і любімага Івана Паўлавіча, слухала самабытны і звонкагалосы хор яго глінішчанскіх вытокаў. Радавалася глыбокаму і непаказному слову выдатнага пісьменніка і вельмі ж сціплага ў жыцці чалавека. Думала: якія мы ўсё ж багатыя, калі маем перад сабою сапраўдны ўзор чалавечнасці і працавітасці. Мужнасці і дабрыні. І вось асляпіла, апаліла, як шаравою маланкаю!— гэтая недарэчная і чорная вестка.

Многа разоў я звяртаюся да яго ў думках: «...дарагі Іван Паўлавіч», як і ў тым лісце, што напісала яму адразу ж пасля ягонага творчага вечара. Напісала і... пасаромелася адправіць, каб гэтым самым (хоць бы нейкім чынам) не напомніць яму пра сваё няўклюднае, няладнае становішча.

Дарагі Іван Паўлавіч,— я звярнуся ва ўдзячнай памяці да яго яшчэ не раз. Бо сапраўды—дарагі і непазбыўны, непадобны на іншых і сваёй статнай постаццю (вышыні якой ён і сам як бы саромеўся) і сваім унутраным, задушэўным святлом!

Па невялічкім скверы, што атуляе Дзяржаўны тэатр імя Янкі Купалы, ідуць, а то сядзяць на драўляных лаўках людзі. Здаецца, гэтак жа, як і тады, пры ім. Нестае толькі ў скверыку Яго, што часам на хвілін колькі знаходзіў тут для сваёй душы невялічкі супынак.

1966—1970-ыя гады... Кожны дзень праз гэты зялёны, а то лістападны ці заснежаны скверык я ішла на філалагічны факультэт са студэнцкімі сшыткамі ў сумцы. Але больш вясной і восенню мне шчасціла ўбачыць тут, кольвечы, Івана Паўлавіча. Я ўжо нават прывыкла, што Ён абавязкова не сёння, дык заўтра запыніць мяне сваім нязычным, але такім цёплым і жаданым голасам:

— І куды ж Вы так леціцё ды яшчэ... у чорных акулярах?

Мне сорамна ад таго, што, спяшаючыся, я задумалася. Але сорамна яшчэ і за гэтыя чорныя, чортавыя акуляры! Многа сонца, многа светла-калючага сонца! І ўсё ж гэта не апраўданне.

— Дзень добры, Іван Паўлавіч! Прабачце. А начапіла акуляры не толькі ад сонца і што цяпер модна, але і таму, што люблю чытаць па тварах людзей — праз цьмяныя акуляры менш бянтэжнасці.

— Во як?! А я думаў, што адзін я такі.—І ён ціха ўсміхаецца.—Але Вам, Жэня, рана гэтыя акуляры чапляць. У Вас жа добрыя вочы. Глядзіце адкрыта імі на людзей — і ім таксама добра будзе. Дамовіліся? Прысядзьце во тут, калі не спяшаецеся.

У руках Івана Паўлавіча кніга, дакладней — зборнік паэзіі.

— Пачытаў. А цяпер хачу, каб гэтая кніжка Вам спатрэбілася. Яна Вам павінна прыйсціся. Паслухайце:

Приду туда, и отлетит
томленье.
Мне ранние приятны холода.
Таинственные, темные
селенья
Хранилища бессмертного
труда

Агатавы, зачытаны томік вершаў Ахматавай. Год назад Іван Паўлавіч падарыў мне ў гэтым скверыку зборнік Галактыёна Табідзе. Цяпер, вось — Ахматаву.

— Акуляраў больш такіх не насіце. І не падпадайце пад моду. А цяпер — бяжыце. Я ведаю, што многа разоў Вы будзеце чытаць гэтыя дзіўныя вершы. Хай яны будуць для Вас сапраўдным урокам літаратуры і жаноцкай годнасці.

Зялёнае дзяўчо, вось і сапраўды ж зялёнае,— я нават не задумвалася над тым, колькі маю ад гэтага чалавека прыемных неспадзяванак! Я не думаю зусім яшчэ і пра тое, чым і як змагу Яму аддзячыць. Прывыкла, што Ён запыняе мяне, прывыкла, што пытаецца пра «жыццё-быццё», пра тое, як здаю экзамены і ці пішу вершы... Прывыкла! Божа мой, і сапраўды прывыкла, як у маленстве — зусім да чужой жанчыны ў маёй вёсцы, да яе груднога голасу і нават да сціплага пасляваеннага стала — у Луцэі Французаўны, абяздоленай вайною ўдавы, усё было смачней, нават аржаныя сухары з квасам! Не, у Луцэі Французаўны, як і песні з казкамі — усё было асаблівае!

Некалькі дзён запар я купляю сціплыя букецікі белагаловых канвалій. Хачу падарыць Івану Паўлавічу. Але вась ужо цэлы тыдзень — як ён «адсутнічае». Янка Брыль сказаў, што бачыў яго ў паліклініцы. Хворы? І гэтая абаяльная, як быццам спакойная ўсмешка?! Вочы? У іх жа — цэлая вечнасць!

Час ляціць, пішуцца нейкія вершы, паспяхова здаюцца экзамены, чакае лета. Пэўне ж, я ўбачу Яго ў скверыку толькі восенню.

А восенню 1970 года ў мяне з'яўляецца — выйшаў з друку зборнічак вершаў «Снежныя грамніцы». Падпісала. Нашу ў партфелі, каб пры нагодзе падарыць Івану Паўлавічу.

Сёння, пад канец кастрычніка, у скверыку даволі прахалодна. Але я ўжо здалёк заўважыла, прыкмеціла яго трохі панікліву постаць. Ён шчыра, ад сэрца віншуе мяне з першым зборнікам і жадае працавітасці. (За даляглядам гадоў я многа разоў успамінаю гэтае своеасаблівае — працавітасці!)

— Здароўечка Ваша як?— пытаюся.

— Жыць можна,— адказвае Іван Паўлавіч,— толькі вось дажджы зачасцілі. А з імі мне ўжо і спрачацца не хочацца. Нічога, калі-небудзь ды скончацца, праўда ж? Журавін сёлета многа. Нядаўна вярнуўся з журавінавага раю. Так і стаіць перад вачыма. Заўтра павінен быць харошы сонечны і цёплы дзень. А сёння, за дробным дожджыкам, прачытаю Вашу кніжачку. Выпадзе часіна — пагаворым. Добра?

Па дарозе ў інтэрнат я думала, што Іван Паўлавіч не любіць дажджу і сочыць за прагнозам надвор'я, і нават ні думкі ў мяне пра тое, што раненыя франтавікі — самыя адмысловыя на свеце прагназісты! «Заўтрашні дзень» мог абсалютна дакладна прадказаць і мой бацька (барометрам — асколкі вайны).

А назаўтра — і сапраўды, як кажуць кабеты ў вёсцы,— шчыры дзянёк, сонечны, яснюткі і цёплы. Гэткімі днямі свеціць запозненае бабінае лета.

— Учора гаварылі пра Вас з Аркадзем Куляшовым.

— ?

— Пра кніжку. Харошая, светлая, але суму штосьць многавата для Вашага ўзросту.

— А я і сама — сумная, дапраўды сумная,— з усмешкай адказваю Івану Паўлавічу.— Калі панядзелак, то думаю — чаму не чацвер, а калі нядзеля — то чаму не серада. Калі тут — то чаго не там, калі там—то чаму не тут. І наогул.

— Не сумная, а летуценная,—удакладняе Ён. Пакуль што — летуценная. А свой лёс, дарэчы, Вы таксама абазначылі.

— Як?

— Ёсць такі верш у Вас. «Непрыручаная птушка». Дарэчы, харошая назва для зборніка. І на рэдактара Вам пашчасціла. Генадзь Бураўкін — сур'ёзны паэт.

Летуценніцай мне надта быць не хочацца, мне здаецца, што я ўжо і надта дарослая. Але ж Ён не можа не бачыць?!

— Калі прыйдзе сапраўднае жыццё — летуценне, як павуцінка, сплыве. А пакуль — хораша. І ўсё ж — Вам будзе нялёгка.

Я не ведаю, як гэта — «ня-

НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА

**У Мінску працягвае работу пленум праўлення Саюза кампазітараў БССР. Яго ўдзельнікі і госці, праслухаўшы насычаную і разнажанравую канцэртную праграму, абмяркуюць канкрэтныя творы і пагавораць аб праблемах развіцця сучаснай беларускай музыкі. Пленумаўская дыскусія так ці інакш закране і пытанні, узнятыя кампазітарам Л. Шлег у нататках, якія склаліся пад уражаннем ад нядаўняга пленума праўлення СК СССР у Кемераве, удзельніцай якога яна была.**

# Да музыкі — з увагай!

ЗАКРАНАЮЧЫ ПРАБЛЕМУ прапаганды беларускай музыкі, не абмінеш пытання: што ж у гэтым плане зроблена нашымі музыказнаўцамі за апошнія 10 — 15 гадоў? (У першую чаргу маладымі, бо чакаеш, вядома, іх творчай ініцыятывы). Калі ж за пяро бярэцца кампазітар, то музыказнаўцу, па-мойму, у творчым саюзе рабіць няма чаго...

Але, можа, спраў так многа, што музычны прапагандыст—тэарэтык, музыказнавец, крытык—з імі не спраўляецца? Як бы там ні было, а ствараецца ўражанне, што музыказнаўчая секцыя Саюза кампазітараў БССР, якую ўзначальвае Г. Глушчанка, часам служыць, фігуральна кажучы, бясплатным дадаткам да нашай творчай арганізацыі. Зрэшты, для дзяржавы мо і не зусім бясплатным...

Не магу не пагадзіцца з довадамі народнага артыста СССР Я. Глебава, які ў артыкуле «Развітваючыся з творам...» («Советская культура» за 22 верасня г. г.) піша: «Даўно і нейк устойліва мы не маем прафесійнай, пісьменнай ацэнкі нашай працы. Не ўхвалы і кампліментаў, а сур'ёзнага, крытычнага і сумленнага аналізу твора. У рэспубліцы апошнім часам не з'яўляюцца манаграфічныя даследаванні творчасці беларускіх кампазітараў, хоць спробы, трэба сказаць, робяцца. Няма аглядаў, абагульненняў, прагнозаў, даследаванняў нашых творчых памкненняў, накірункаў, стыляў. Няма падручнікаў гісторыі беларускай музыкі для вучылішчаў і кансерваторыі, напісаных з пазіцый сённяшняга дня. (...) Усё гэта адбываецца яшчэ і таму, што ў асяроддзі музыказнаўцаў, тэарэтыкаў і крытыкаў мала прафесіяналаў, здольных таленавіта і глыбока пранікнуць у задуму кампазітара, яго ідэю і ўвасабленне. Таму ім зручней «захоўваць маўчанне ў важнай спрэчцы». Значна лягчэй «даследаваць» творчасць Баха, Афенбаха—пра каго напісана гэтулькі, што паспявай паспрытней кампіліраваць...»

Усё гэта так. Але чаму ж тады маўчаць і тыя нешматлікія таленавітыя, якім ёсць што сказаць? (Да іх ліку, трэба думаць, адносяцца Р. Аладава, А. Друкт, Т. Дубкова, І. Зубрыч, Т. Шчарбакова і некаторыя іншыя). Можа, ёсць і наша віна ў тым, што не заўсёды кіраўніцтва СК і іншых аўтарытэтных і кампетэнтных устаноў ідзе насустрач тым праблемам і складанасцям, якія, несумненна, узнікаюць у нашых таварышаў — і ў справе падрыхтоўкі і выдання артыкулаў, брашур, даследаванняў, і ў кантактах з музыказнаўчымі секцыямі саюзных рэспублік, і ў прапагандзе (вуснай і пісьмовай, унутранай і знешняй) беларускай музыкі?

Ставіць праблемы заўжды лягчэй, чым іх вырашаць. Абвінаваціць заўсёды прасцей, чым знайсці канкрэтныя, практычныя шляхі да выпраўлення вынікаў тых альбо іншых дапушчаных пралікаў і памылак. І тут, думаю, апроч іншага, вельмі важна, **хто** ўзначальвае тую ці іншую секцыю саюза, якое яго асабістае і грамадскае «я», ці ёсць творчы патэнцыял і аўтарытэтнасць у сваім асяроддзі, якія рэальна апраўдваюць лідэрства...

Аднак ці не час нам спыніць узаемныя папрокі і абвінавачванні, пайсці насустрач адно аднаму, аб'яднаць намаганні на карысць шырокай, усесаюзнай прапаганды нашага *музычнага нацыянальнага мастацтва?*

ЗВЯРТАЮСЯ ДА ВЫНІКАЎ пленума праўлення СК СССР, праведзенага нядаўна ў Кемераве і прысвечанага 70-годдзю Кастрычніка. Вядома, што неабходнасць яго правядзення выклікана самім жыццём, тым шматгадовым вопытам ва ўсіх музычна-грамадскіх сферах, якія назапашаны за 70 гадоў існавання Савецкай дзяржавы.

Адкрываючы пленум, першы сакратар праўлення СК СССР Ц. Хрэннікаў сказаў, што сакратарыят праўлення Саюза кампазітараў палічыў неабходным вынесці на парадак дня пленума вострыя хвалюючыя праблемы сённяшняга стану нашай музычнай творчасці, праблемы, пра якія больш за ўсё выказваюцца і горача спрачаюцца як прафесіяналы, так і маса зацікаўленых аматараў. Вастрыня дыскусій і ў прэсе, і з экранаў тэлебачання, і на сустрэчах, асабліва ў маладзёжнай аўдыторыі, з новай сілай сведчыць, як патрэбна музыка людзям, якое велізарнае месца займае яна ў духоўным свеце менавіта цяпер, калі грамадская свядомасць прыйшла ў рух, калі галоснасць стала вызначальным фактарам усіх бакоў жыцця грамадства.

Як жа ў нас, у Саюзе кампазітараў Беларусі, паставіліся да такой значнай падзеі ў жыцці краіны?

У Кемераве, у фае гасцініцы «Кузбас», дзе рэгістравалі прыезджых гасцей, маскоўскія калегі з апарату СК СССР спыталі ў мяне: «А чаму няма ад Беларусі членаў праўлення СК СССР? Навошта іх у такім разе выбіраюць?»

Што можна было на гэта адказаць?

З дзевяці чалавек дэлегацыі СК БССР (І. Лучанок, Я. Глебаў, А. Багатыроў, Ю. Семяняка, У. Алоўнікаў, Д. Смольскі, Л. Захлеўны, Г. Гарэлава, Л. Шлег) *прысутнічалі* толькі двое: старшыня саюза і аўтар гэтых нататак. Нават мне самой хочацца спытаць (толькі ў каго?): «А чаму на такім прадстаўнічым форуме, як пленум праўлення СК СССР, прысвечаны 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, ад Беларусі не было ні прадстаўнікоў прэсы (хоць бы «ЛіМа»), ні музыказнаўцаў (ад СК БССР), ні ...?»

Мы хочам, каб пра нас ведалі шырока, чакаем павагі да сябе, часта папракаем за недахопы абы-каго, толькі не саміх сябе...

Цяпер—аб канцэртнай праграме пленума, у якую ўвайшлі творы шасці беларускіх аўтараў (І. Лучанка, Э. Ханка, Г. Гарэлавай, Э. Казачкова, В. Помазава, Л. Шлег). Трэба адзначыць, што, у параўнанні з апошнім з'ездам СК СССР у Маскве, амплітуда творчага прадстаўніцтва нашай рэспублікі на ўсесаюзным узроўні крыху пашырылася, але ці намнога?

Вядучымі жанрамі ў творчасці беларускіх кампазітараў, на мой погляд, з'яўляюцца сёння (акрамя песні) вакальна-сімфанічная і сімфанічная музыка. Але толькі твор В. Помазава, вакальна-сімфанічная паэма «Янка Купала», прагучаў на ўсесаюзнай музычнай арэне як водгулле таго, несумненна, у многім самабытнага і яркага, што ў нас, у Беларусі, ужо назапашана. Так, беларускімі кампазітарамі зроблена нямала, але трэба і вучыцца адстойваць сваё, калі трэба—і паспрачацца, і пераканаць, і пазмагацца, адстойваючы пазіцыі музычнага мастацтва рэспублікі за яе межамі. Бо ёсць за што змагацца і за што пастаяць.

Толькі каму гэта рабіць?

Калі сказаць: нам усім, усім, хто неабыякавы да лёсу беларускай нацыянальнай музыкі, — гэта прагучыць агульна. А калі сказаць канкрэтна? Аднаму старшыні СК БССР, пры ўсёй ягонай стараннасці, яўна не справіцца. Нават востраправлемныя артыкулы Я. Глебава (у рэспубліканскім і ў саюзным друку) не здатныя карэнным чынам *што-небудзь* змяніць.

Нам, г. зн. Саюзу кампазітараў Беларусі, *патрэбны* разумныя, дзелавыя, таленавітыя людзі. Іх трэба падтрымліваць, іх трэба не толькі пакідаць у сферы творчасці, дзе яны, несумненна, плённа працуюць, але ўводзіць непасрэдна ў прэзідыум і праўленне не толькі СК БССР, але і СК СССР. Пад-

НА МУЗЫЧНАЙ СЦЭНЕ

# І СМЕХ, І СЛЁЗЫ, І ЛЮБОЎ...

**«Кавалер руж» Р. ШТРАУСА ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР**

Сярод нядаўніх тэатральных прэм'ер пастаноўка оперы нямецкага кампазітара Рыхарда Штрауса «Кавалер руж» вылучаецца як значная з'ява ў культурным жыцці Мінска. Афіша папоўнілася новым, малавядомым для многіх слухачоў творам, які ўжо з 1911 года (з дня першай пастаноўкі на сцэне Дрэздэнскай оперы) трывала ўвайшоў у рэпертуар многіх тэатраў і набыў заслужаную славу ў аматараў музыкі.

Задача пастаноўшчыкаў спектакля была досыць адказная: не толькі на добрым прафесійным узроўні інтэрпрэтаваць оперны твор, а і пастарацца адкрыць гэтай прэм'ерай для шырокага кола слухачоў шлях у малазнаёмы свет музыкі нашага стагоддзя. Музычны кіраўнік і дырыжор Г. Праватораў, рэжысёр-пастаноўшчык Б. Луцэнка, мастак Э. Гейдэбрэхт, увесь калектыў тэатра імкнуліся дастойна вырашыць гэту задачу. Прэм'ера, аднак, — не канчатковы вынік, а зыходны пункт да далейшай скрупулёзнай працы над спектаклем.

Звярну ўвагу на трактоўку асноўных персанажаў оперы. Складаная і разам з тым абаяльная княгіня Вердэнберг (маршалка) у выкананні І. Шыкуновай. Радуе неадназначны падыход да трактоўкі гэтага вобраза. Каханне маршалкі да *юнага Актавіяна* — супярэчлівы комплекс чалавечых перажыванняў, якія найбольш поўна раскрываецца ў маналогу гераіні з І дзеі. Цэласнасць і сілу ўздзеяння заключнай сцэны павінна забяспечваць чулае ўзаемадзеянне, пастаяннае «ўзаемачуццё» аркестра і выканаўцы; у нюансах партытуры перададзены тонкія пераходы ўнутранага жыцця гераіні. *Вялікая роля* ў гэтым маналогу і аркестравых «каментарыяў», якія своеасабліва раскрываюць адчайную спробу маршалкі спыніць час. На цяжкасць інтэрпрэтацыі гэтай сцэны, як вядома з літаратуры, звярталі ўвагу многія рэжысёры. Акцёрская ігра І. Шыкуновай шмат у чым адпавядала драматургічнай значнасці заключнага эпізоду, які зноў пацвярджаў думку пра тое, што, *нягледзячы* на велізарны зарад камедыйнасці оперы, на першы план павінна вылучацца *паэтычная сутнасць* твора.

Складаная псіхалагічная лінія, пачатак якой у І акце, працінае ўсю оперу і заканчваецца ў заключнай сцэне III дзеі. Менавіта тут, у *ціхай* лірычнай кульмінацыі, сінтэзуецца мноства лейтматываў твора. *На жаль*, пры першым выкананні гэты эпізод не ўспрымаўся як лагічнае завяршэнне оперы. Узнікала ўражанне зацягнутасці, эмацыянальнай індыферэнтнасці. А з гісторыі музыкі ж вядома, наколькі значнай з'явай у жыцці Р. Штрауса было стварэнне «Кавалера руж» і асабліва тэрцэта з фіналу твора! Невыпадкова менавіта ён прагучаў, згодна апошняй волі кампазітара, на *яго пахаванні*.

Так што асаблівым сімвалічным сэнсам, адухоўленым і ўзвышаным пачуццём павінна быць насычана музычная атмасфера заключнага тэрцэта, бо ў ім спляліся разам вечныя матывы цвіцення і паміранне, раніцы і надвячорка, імкнення да шчасця і ўсведамлення чалавечага жыцця, якое незваротна адыходзіць. Для таго, каб данесці да слухача псіхалагічную *глыбіню* гэтай сцэны, патрэбны, на мой погляд, не столькі выканаўцы з унікальнымі пеўчымі дадзенымі, колькі вакалісты, якія валодаюць «энергіяй быць» (К. Станіслаўскі), валодаюць майстэрствам **дзейснага спявання**, здольныя пранікаць у псіхалагічны сэнс найменшых інтанацыйна-рытмічных, дынамічных зменаў, чуйна рэагаваць на, здавалася б, нязначныя змены тэмпу, змяшчэння акцэнтаў; *нарэшце*, такія, хто ўспрымае «голас» аркестра як уласны, унутраны голас.

*У гэтым плане* працэс «ужывання» ў партытуру оперы, думаю, будзе доўгім, бо сапраўднае прафесійнае спасціжэнне сутнасці музычна-драматычнага вобраза звязана з бясконцым творчым пошукам, безупыннай працай над пеўчай тэхнікай.

На прыстойным мастацкім узроўні прагучалі ўсе кантыленныя эпізоды «Кавалера руж»: прыемна было адзначыць у *нашых артыстаў* адметныя вакальныя дадзеныя і добрую оперную школу. Дастаткова ўспомніць цудоўнае сола тэнара ў выкананні Э. Пелагейчанкі, які здолеў арганічна спалучыць у сваёй інтэрпрэтацыі прыкметы стараітальянскай канцоны і вытанчана-прачулай поствагнераўскай мелодыкі, якой уласцівы знешняя строгасць і ўнутранае эмацыянальнае напружанне. *Пераканальна* прагучалі многія эпізоды вакальных партый Актавіяна (Н. Галеева), Сафі (Т. Кучынская), Фальцачы (Г. Чэпікаў) і асабліва Аніны (В. Цішына).

У перапісцы з Г. Гофманствалем, лібрэтыстам оперы, кампазітар зазначаў, што пры стварэнні оперы яны не змогуць абысціся «звычайнымі опернымі спевакамі, патрабуюцца вельмі добрыя артысты з драматычным талентам». Большасць беларускіх выканаўцаў *валодаюць* гэтай каштоўнай якасцю. Так, запамінальны вобраз аднаго з цэнтральных камічных персанажаў оперы барона Окса стварыў В. Чарнабаеў.

Вобраз Сафі раскрыты Т. Кучынскай досыць ярка і пераканаўча. Разам з тым праца над гнуткасцю і роўнасцю гучання голасу павінна быць пастаянна ў цэнтры ўвагі актрысы. Гэты недахоп характэрны *для многіх — і салістак, і салістаў*. Асабліва прыкметныя цяжкасці гуказдабывання ў эпізодах, *нязручных з пункту гледжання тэмпу і тэсітуры.*



«Кавалер руж». Сцэна са спектакля.

Фота А. КАЛЯДЫ.

крэсліваю і паўтараю: падтрымліваць людзей энергічных, з актыўным мысленнем. Асабіста ў мяне няма ўпэўненасці, што гэтым крытэрыям адпавядаюць усе тыя нашы таварышы, якія ўваходзяць у сакратарыят СК СССР. А кампазітары маладога і сярэдняга пакаленняў (ва ўзросце ад 25 да 45 гадоў), з асяроддзя якіх можна вылучыць лідэраў, на жаль, дасюль былі пазбаўлены права прэтэндаваць на такую высокую місію. Пакуль не позна, трэба ламаць заганнае замкнёнае кола. Агульнымі намаганнямі. Выбіраючы сапраўды **рабочыя органы** саюза, а не «ганаровае» праўленне.

НЕ ПРОСТА ГАВАРЫЦЬ, а рэальна клапаціцца пра творчую пераемнасць — вось што яшчэ важна. Сярэдняе пакаленне кампазітараў, якому наканавана праз пэўны час узяць кіраўніцтва саюзам у свае рукі і быць, мяркую, у авангардзе беларускай музыкі; пакаленне, якое ўжо цяпер заяўляе пра сябе калі не на поўны голас, то, ва ўсякім разе, досыць гучна, востра і свежа, знаходзіцца незаслужана ў ценю. Кампазітары ва ўзросце 40 гадоў ці каля гэтага чамусьці «ходзяць у маладых», хаця маюць сталы творчы аўтарытэт.

Дарэчы, гонару прадстаўляць беларускае музычнае мастацтва на сёлетнім усесаюзным пленуме былі ўдастоены менавіта кампазітары сярэдняга пакалення. (Напэўна, пры садзейніцтве як прэзідыума праўлення СК БССР і, у першую чаргу яго старшыні І. Лучанка, так і камісіі музыкі народаў СССР, якую ўзначальвае С. Сапожнікаў). А паказаліся беларускія аўтары на гэты раз, думаю, параўнаўча някепска. Вельмі цёпла і добразычліва прынялі слухачы Канцэрт Г. Гарэлавай для габоя і камернага аркестра, з вялікай увагай — вакальна-сімфанічную паэму «Янка Купала» В. Помазава.

Тых беларускіх кампазітараў, што былі прадстаўлены на пленуме, яднае досыць характэрнае для развіцця сучаснай савецкай музыкі ашчаднае і чулае стаўленне да нацыянальнага фальклору, самабытнае выкарыстанне яго розных жанравых пластоў. А гэта вельмі важна, асабліва цяпер, калі з высокай трыбуны пленума нераз гучала перасцярога аўтарытэтных музыкантаў наконт самавыраджэння нацыянальнага фальклору як сацыяльнай з'явы, довады пра неабходнасць своечасовай дапамогі і падтрымкі тым, хто стаіць ля вытокаў народнай творчасці як неад'емнай часткі агульнай шматнацыянальнай савецкай культуры.

Іншая справа — на якім узроўні працуем мы, беларускія кампазітары, так альбо інакш дакранаючыся ў працэсе творчасці да гэтай магутнай крыніцы, якая глыбока і па-новаму асвяжае кожнае творчае «я», не пазбаўленае таленту. Тут, я перакананая, нам часцяком бракуе самакрытычнасці, якая, памагаючы ачысціцца ад усялякага шлаку, спрыяе творчаму эксперыменту. Эксперыменту ў рэчышчы нацыянальнага постнеафальклрызму. Гэткіх работ — яркіх, па-сучаснаму вострых і каларытных, напісаных нечакана і пераканаўча — яўна не хапае нам, беларускім аўтарам, і нашым калегам з саюзных рэспублік, чые творы прагучалі на пленуме ў Кемераве.

Дух эксперыментатарства, на жаль, адсутнічаў у большасці прадстаўленых там работ. Магчыма, таму, што творчае слова было дадзена на пленуме кампазітарам пераважна старэйшага пакалення, намнога менш — сярэдняга і амаль у якасці выключэння — маладога.

ЦЯПЕР — пра арганізацыйны бок.

Наша пленумаўская вандроўка пачалася... з набыцця білетаў на праезд. Гэта, як заўсёды, аказалася справай клапатной. Чамусьці наш Музфонд не мае нават бронь на набыццё білетаў. Адпаведныя інстанцыі павінны былі б дапамагчы нам у вырашэнні гэтага пытання.

Не магу не сказаць колькі слоў і пра аплату тых беларускіх музыкантаў-выканаўцаў, якія ўдзельнічалі ў канцэртах пленума. Па нейкіх невытлумачальных прычынах габаіст Мінскага камернага аркестра А. Прыходзька і флейтыст Дзяржаўнага канцэртнага аркестра БССР Ю. Кандраценка былі пазбаўлены (уладай філармоніі) заработнай платы на час іх канцэртнай работы ў Кемераве. Блуканні саміх музыкантаў па розных інстанцыях (філармонія, Саюз кампазітараў, Міністэрства культуры) належных вынікаў не далі. І, вядома, гэта не выйсце са становішча, калі І. Лучанок, абмяркоўваючы са мною гэты выпадак, заявіў, што ён гатовы заплаціць выканаўцам са сваёй кішэні. Па-мойму, у такой сітуацыі кішэня павінна быць не ўласная, а дзяржаўная.

І УСЁ Ж успамінаеш пленум з удзячнасцю. Бо ён спрыяў сапраўдным, шчырым сустрэчам Чалавека і Музыкі. Дзякуй за хлеб-соль працавітым і гасцінным гаспадарам Кузбаса...

Цёплыя словы падзякі адрасуеш нашым выканаўцам: канцэртмайстру Белтэлерадыё Л. Максімавай, салістам Я. Гладкову, А. Прыходзьку, Ю. Кандраценку, удзельніцам жаночага народнага хору Мінскага музвучылішча пад кіраўніцтвам А. Кашпура, якія, нягледзячы на пэўныя арганізацыйныя, фінансавыя цяжкасці, з поўнай аддачай сіл, на дастойным прафесійным узроўні справіліся з пачэснай задачай — прадставіць беларускае музычнае мастацтва на ўсесаюзнай арэне.

Зазіраючы наперад, спадзяюся, што канцэртныя праграмы чарговага пленума СК СССР (вясной наступнага года ў Маскве) будуць прадстаўляць, поруч з лепшымі творамі нашых калег з братніх рэспублік, усё вартае са створанага і беларускімі аўтарамі. Будуць прадстаўляць незалежна ад узросту, звання і грамадскага статусу кампазітараў. Арыентацыя менавіта на такі перспектыўны курс, як мне здаецца, сёлета зроблена.

**Людміла ШЛЕГ,**
**член праўлення СК БССР.**

---

Рэчытатыўныя фразы ні ў якім выпадку не павінны набываць «крыклівае», аперэтачнае адценне; недапушчальны таксама ў вакальных партыях нечаканыя «дынамічныя выбухі» на выгодных для выканаўцаў мясцінах.

Найбольш прэтэнзій да дэкламацыйна-моўнага боку вакальнага меласу. Няцяжка было заўважыць на прэм'еры, наколькі напружана ўспрымаўся твор асноўнай масай слухачоў. Неадпрацаваная артыкуляцыя, дрэннае вымаўленне ў розных вакальных стылях, часам нячыстае інтаніраванне,— усё гэта рабіла слуханне оперы даволі стамляючым.

Калі гаварыць пра кірунак далейшай работы калектыву над гэтай операй, неабходна звярнуць асаблівую ўвагу на суадносіны вакальных і аркестравай партый. Аркестр у дадзеным выпадку—гэта ўнутраны голас кожнага героя, яго душа. На першым спектаклі адчувалася арганізуючая роля аркестра, і гэта — станоўчы момант. Аднак наколькі цудоўны і выразны ні быў бы «ўнутраны голас», ён не павінен заглушаць «знешні», рэальны голас вакаліста. Парушэнне дынамічнага балансу асабліва адчувалася ў ансамблевых сцэнах.

Аркестравая партыя, «карэктна» суправаджаючы сольныя эпізоды, нечакана змяняла свой дынамічны профіль, як толькі вакаліст заканчваў свой музычны адрэзак. (Аркестранты быццам радаваліся таму, што нарэшце і ім можна спакойна цешыцца музыкай — ніхто не перашкаджае!). Стваральнікам спектакля варта сур'ёзна задумацца над праблемай увасаблення ансамблевых сцэн, бо іменна яны — важнейшы сінтэз музыкі і дзеяння, адна з асноўных прыкмет оперы-буфа як жанру.

Нельга адназначна ацаніць рэжысёрскае вырашэнне «Кавалера руж». Імкненне да сцэнічнай метафарычнасці, жаданне надаць дынаміку дзеянню, пошукі вобразнай выразнасці праз пластыку характарызуюць пазітыўныя бакі творчай манеры Б. Луцэнкі, і «Кавалер руж» у гэтым сэнсе прыдатная глеба для пастаноўшчыка. Адпак ці можна забываць, што рэжысёрская работа ў оперным спектаклі павінна ў першую чаргу выявіць усімі мастацкімі сродкамі **музычную драматургію** спектакля, прыярытэтнае значэнне акцёра-спевака? Тым не менш, некаторыя балетныя сцэны і «харэаграфічныя кантрапункты», хоць і выклікалі ў цэлым трапныя асацыяцыі з камедыяй дэль артэ, часам залішняй маштабнасцю і маляўнічасцю, а часам і пэўнай навязлівасцю перашкаджалі слухачу сканцэнтравацца на музычна-псіхалагічных дэталях оперных сцэн.

У далейшай працы над спектаклем рэжысёру варта, пэўна, больш усебакова спасцігаць спецыфіку опернага жанру ў цэлым і кожнага опернага спектакля ў прыватнасці; неабходна асцерагацца і штучнага прыцягнення на оперную сцэну сродкаў і прыёмаў мастацкай выразнасці, тыповых для «слоўна-драматычнага» спектакля. Пераканаўчасць і цэласнасць інтэрпрэтацыі опернага твора стануць магчымымі дзякуючы не толькі глыбокаму спасціжэнню эпохі стварэння сачынення, яго эстэтыкі, індывідуальнага стылю кампазітара, лібрэтыста, але і дзякуючы рэжысёрскаму спасціжэнню сутнасці сінтэзу опернага спектакля. А ў ім, як вядома, усе элементы мастацкай сістэмы падпарадкаваны законам **музычнага** твора.

З пазітыўных уражанняў адзначу цікавую сцэнаграфію Э. Гейдэбрэхта. Лаканічнасць, ашчадлівасць, старанны адбор тыповых рысаў выяўлення спалучаліся з прадуманым колеравым вырашэннем, што ў сукупнасці ўдала падкрэслівала эмацыянальную танальнасць спектакля. З густам выкананы касцюмы (Э. Грыгарук і Л. Ганчарова); а вось выканаўцам, апранутым у гэтыя касцюмы, варта было б пажадаць большай грацыёзнасці, элегантнасці, свабоды ў рухах, паходцы. Відаць, нашай кансерваторыі не пашкодзіць пераняць вопыт Літвы, дзе студэнтаў кансерваторыі спецыяльна навучаюць не толькі сцэнічнаму руху, а і этыкету розных краін, уменню абыходзіцца з гістарычнымі аксесуарамі, насіць касцюмы розных эпох і да т.п.

Як кожная цікавая, складаная з'ява, «Кавалер руж» выкліча яшчэ мноства спрэчак, сутыкненне розных ацэнак, супярэчлівых слухацкіх рэакцый. У новым тэатральным сезоне гледачы прадаўжаюць знаёмства з гэтым творам, у якім, як і ў жыцці, неспадзявана сплятаюцца і смех, і слёзы, і любоў, гаротнае расчараванне і вечнае імкненне да шчасця.

**Эльвіра АЛЕЙНІКАВА.**

---

## ТЭАТР

ГЛЯДЗЕЛЬНАЯ зала Тэатра юнага гледача ў Мінску. Апошнія дні гастроляў Беларускага тэатра «Лялька» з Віцебска. Сёння тут спектакль «Прыгоды трох парасят» (п'еса Н. Мацяш). Прагучаў трэці званок. Вось-вось пачнецца казка—простая, нехітрая, знаёмая ўсім з дзяцінства казка пра трох вясёлых і бесклапотных парасят... Зала нагадвае нейкі шматскладаны арганізм. Усё тут рухаецца, круціцца, гудзе, шуміць, стукае. І здаецца, няма на свеце сілы, каб прымусіць дзятву сцішыцца, прыслухацца...

Але зайграла музыка, на сцэну выбеглі, а дакладней,




выехалі на веласіпедах акцёры, заспявалі такую ж простую песеньку, як простае само жыццё ў герояў казкі,—і зала быццам па чароўнай палачцы замерла. І не таму, што старалася прыслухацца да слоў песенькі, а замерла ад імгненнага, калі можна так сказаць, «прачытання» задумы мастака, рэжысёра - пастаноўшчыка В. Клімчука. Акцэнты ў спектаклі былі расстаўлены рэжысёрам вельмі дакладна, і першы з іх—касцюмы герояў: лёгкая, празрыстая тканіна ружовага колеру, аддзелка з тканіны белага колеру, а галоўнае — арыгінальны пакрой, які выклікае асацыяцыі ці то з птушанятамі, якія толькі што вылупіліся, ці то сапраўды з парасятамі «малочнага ўзросту».

Маленькі глядач настроены быў на сустрэчу са знаёмымі героямі казкі. Але на сцэне— акцёры. Без лялек і нават без масак. Так, у спектаклі ігралі і лялькі, але, мне думаецца, што ў якасці эксперыменту можна было б абысціся без іх, а тэатр не перастаў бы быць лялечным. Натуральна, што нават звышарыгінальных касцюмаў недастаткова, калі няма натхнёнага, шчырага выканання, якім вылучаліся А. Мажэйка (Ніф-Ніф), С. Лунева (Нуф-Нуф), В. Корзун (Наф-Наф) і А. Маханькоў (Воўк).

І касцюм, і пластыка, і работа акцёра з лялькай, а таксама з самымі рознымі прадметамі—усё тут «працуе» на раскрыццё вобраза спектакля ў цэлым, таксама, як і на кожны сцэнічны вобраз паасобку. Скажам, нягледзячы на тое, што тры персанажы п'есы знешне абсалютна адолькавыя, вы лёгка адрозніваеце адно ад аднаго. Ці не ў гэтым заключаецца талент рэжысёра і майстэрства акцёра—адным лаканічным штрыхом надаць сцэнічнаму вобразу аб'ёмнасць, пазнавальнасць і пераканаўчасць.

Ва ўсёй шматстайнасці выяўленчых сродкаў прачытваецца галоўнае—на сцэне адбываецца гульня. А гэта тое, што заўсёды падкупляе гледача. Тэатр і гульня—паняцці непадзельныя. Для дзіцячай жа аўдыторыі гульня на сцэне — двойчы свята.

Спектакль «Дзед і Жораў» таксама заяўлены нам як гульня: круцяцца колы воза, затым воз спыняецца, з яго дастаюцца лялькі, раздаюцца акцёрам і... А далей гульня знікае. Што ж, няпроста дасканала ўвасобіць задуманае, але, думаецца, пэўныя няўдачы «Лялькі» найперш сведчаць пра пошук маладога тэатральнага калектыву. Існуе, напрыклад, меркаванне, што твор лялечнага тэатра павінен вырашацца адной сістэмай лялек. А ў спектаклі «Чорная курыца» А. Пагарэльскага дзейнічаюць і звычайныя лялькі, і планшэтныя, і плоскасныя, і проста «жывыя» акцёры. Цікавае рэжысёрскае вырашэнне сцэны сну Алёшы — галоўнага героя п'есы: сон і ява неўзаметку, тонка пераходзяць адно ў другое, і ўзнікае ўражанне непарыўнай лініі паводзін персанажа.

У тканіну спектакля «Прыгоды трох парасят» цікава ўплецена музыка А. Залётнева. Яна гучыць у «жывым выкананні» (як прынята цяпер гаварыць), што найбольш пераканаўча дзейнічае на слухача, і асабліва на маленькага.

Я паглядзеў усе спектаклі (іх было чатыры), з якімі Беларускі тэатр «Лялька» пад кіраўніцтвам рэжысёра В. Клімчука прыехаў на гастролі. Дарэчы, гэта ўвесь рэпертуар, падрыхтаваны калектывам за час свайго існавання. А створаны ён быў 20 красавіка 1986 года «пад крылом» Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа.

І вось—першыя мінскія гастролі. Што гэта, выклік сталічнаму тэатру або жаданне спаборнічаць на роўных? Канечне, пра «выклік» гаварыць не варта, а вось заяўка маладога калектыву на творчае спаборніцтва, думаецца, — небеспадстаўная. Я добра ведаю Дзяржаўны тэатр лялек БССР, які ўзначальвае таленавіты рэжысёр А. Ляляўскі, яго цудоўныя пастаноўкі. Бачыў радасныя, адухоўленыя твары гледача на кожным яго спектаклі, слухаў гарачыя апладысменты на адрас артыстаў. Але я бачыў дзятву і на спектаклях тэатра з Віцебска. Чуў яе затоенае дыханне, калі сцэнічным героям пагражала небяспека; адчуваў шчырую радасць, калі справядлівасць карала грубасць і самалюбства. Хіба ж гэтага мала?!..

Мінскія гастролі віцебскай «Лялькі» засведчылі нараджэнне цікавага, здольнага нацыянальнага тэатральнага калектыву.

**Арнольд ДЫБЧА.**

---

## «МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ» № 9

**Фрагментамі з выступленняў на XII з'ездзе мастакоў Беларусі адкрываецца нумар — «Мысліць перспектыўна».**

**Роздумам пра музычнае жыццё рэспублікі дзеляцца Д. Смольскі, У. Дарохін, А. Друкт — «Адказнасць перад сабой і грамадствам».**

**Л. Саянкова («І я табою раблюся, эпоха...») і А. Красінскі («На экране — чалавек») дзеляцца думкамі аб рабоце беларускага кінематографа.**

**Рэцэнзіі Т. Арловай («Зорнае імгненне ісціны») і М. Гарэцкай («Яшчэ раз пра мэты і сродкі») — пра новыя спектаклі беларускіх тэатраў.**

**Фестывалю мастацтваў «Мінская вясна», ролі тэлебачання ў мастацкім жыцці, даследаванню беларускіх народных песень прысвечаны публікацыі В. Антаневіч («Новыя ракурсы»), Э. Мельнікава, В. Іпатавай («Духоўная спадчына экрана»), І. Шэшкі («Дыдактычныя гульні-занятк і на ўроках выяўленчага мастацтва»), В. Ліцвіненкі, У. Раговіча («Песні-загадкі»).**

**І. Курмановіч («Два прызванні»), Г. Каханоўскі («Рэха памяці нашчадкаў»), З. Пазняк («Дзіцячы тэатр Станіславы Корф»), В. Пуцко («Трапятлівы нерв уніфікацыі») расказваюць пра самадзейную мастачку-рэзчыка А. Асіпкову, этнографа-фалькларыста Р. Друцкага-Падбярэзскага, пра тэатральны калектыў у Вільні ў 1916—1918 гг., пра каталог «Тэмпернае мастацтва Беларусі канца XV—XVIII стагоддзяў».**

**Есць «Старонкі календара», «Хроніка мастацкага жыцця» і інш.**

ПРЫРОДА І МЫ

# Абразкі

Іван ГАЛУБОВІЧ

**Іван Галубовіч нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Пранчэйкава Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі. Працаваў трактарыстам у родным калгасе імя Кірава, а таксама на цалінных землях. Служыў у арміі. Пасля арміі працаваў слесарам-зборшчыкам на Алтайскім трактарным заводзе імя М. І. Калініна.**

**Скончыў Мінскі эканамічны тэхнікум і БДУ імя Леніна (факультэт журналістыкі).**

**Друкаваўся ў часопісах «Работніца і сялянка», «Вясёлка», газетах «Голас Радзімы», «Чырвоная змена», «Мінская праўда», «Советская Белоруссия», «Сельская газета».**

**Удзельнік семінара маладых пісьменнікаў Беларусі «Іслач-86».**

## САЛОДКІ СОК КЛЯНОВЫ

ЗІМА была цяжкая. Увесь час стаялі вялікія маразы. Але вясна прыйшла нечакана і такая цёплая, што ўжо ў самым пачатку красавіка нават у лесе цяжка было натрапіць на лапіну-другую снегу. Аднойчы дзядзька Ігнась, калі наступілі выхадныя дні, сказаў мне: «Давай сходзім у лес, на Лысую гару, паглядзім, як перазімавалі мурашкі». Я ведаў, што на Лысай гары знаходзіцца ні многа ні мала — пятнаццаць мурашнікаў. І ўсе яны дагледжаны рупным і добрым чалавекам да ўсяго жывога на зямлі. Чалавек гэты — стары ляснік-пенсіянер дзядзька Ігнась. Ён не толькі абгарадзіў усе мурашнікі, але і старанна пафарбаваў у блакітны колер кожную абгародку.

Лес сустрэў нас дзіўнай прыгажосцю, распусціліся каташкі арэшніка і выкінулі з сябе воблачкі залаціста-жоўтага пылку. Вось-вось распусцяцца набухлыя пупышкі ў асіны і бярозы, смалістымі і пахучымі сталі яны ў таполі. Пакрылася чырвона-карычневымі завушніцамі вольха, каля рэчкі скінула цёмныя лускавінкі ракіта.

Пачулі цяпло, ажылі на Лысай гары і мурашнікі. Усе яны варушыліся, туды-сюды поўзалі па іх тысячы мурашак. А самыя смелыя з мурашак ужо адправіліся ў падарожжа. У розных напрамках да мурашнікаў і ад іх снуюць і снуюць гаспадары. Адны з іх нясуць туды розных мушак і жучкоў, а другія, пакінуўшы сваю здабычу дома, зноў спяшаюцца на паляванне.

— Ого, мурашкі! — гаворыць дзядзька Ігнась. — Гэта вялікія памочнікі лесу! Толькі за адзін год сям'я мурашак знішчае каля дзесяці мільёнаў розных шкоднікаў.

Самы вялікі мурашнік на Лысай гары ля маладога, але высокага і стройнага клёна. Мурашнік гэты таксама абнесены абгародкай і пафарбаваны ў блакітны колер. Але што гэта такое? Па клёну ўверх у адным напрамку роўненькім ланцужком адна за адной паўзуць мурашкі. Другія мурашкі такім жа роўненькім ланцужком спускаюцца з дрэва.

— Вось яно што! Салодкі сок кляновы! — смяецца дзядзька Ігнась і гаворыць мне:

— Бачыш зламаную галінку ля самага ствала?

— Ага, бачу.

— У тым месцы, дзе зламана галінка, выступаюць кропелькі соку. Вось і спяшаюцца туды мурашкі, каб паласавацца ім, вясну як падабае сустрэць...

Вечарам вярталіся дамоў праз Лысую гару. Удалечы ціха прагрымеў гром. Збіралася на дождж. Дзядзька Ігнась зноў прыпыніўся ля аднаго мурашніка, нагнуўся да яго.

— Бачыш, ні адной мурашкі ля мурашніка. Дождж чуюць, вось і пахаваліся ў сваіх гнёздах. Мурашкі — жывы барометр прыроды.

Я падышоў да клёна, уважліва абгледзеў увесь ствол дрэва, але ні адной мурашкі не ўбачыў.

Калі з дзядзькам Ігнасем выйшлі з лесу, сцебануў спорны дождж.

## НЯПРОШАНАЯ ГОСЦЯ

На пачатку мая каля рэчкі буяла чаромха, п'яніла, аж дурманіла ад яе ў галаве. У высокім і стройным сасонніку несціхана кукавала зязюля. Адзін перад адным, калі на зямлю апускаліся прыцемкі, выводзілі ў ракітавых кустах песню салаўі.

Крыху воддаль ад рэчкі знаходзіўся санаторый. Вось якраз такой парою я і прыехаў у гэтыя мясціны. Насупраць пошты на маладой кучаравай сасонцы вісела шпакоўня. Кожны год тут жылі і выводзілі сваё патомства сітаўкі — дзве прыгожыя маленькія птушачкі з шэрымі спінкамі, белымі жывоцікамі і жаўтаватай грудзінкай. Заўсёды спакойныя і ганарлівыя, сёння яны вялі сябе незвычайна. Адна з іх нізка праляцела над зямлёй, бы просячы дапамогі ў людзей, закружылася над сваім домікам-шпакоўняй.

У сярэдзіне доміка чулася адчайнае віслівае галашэнне другой птушкі. Так матка плача толькі па свайму дзіцяці, калі яно пападае ў бяду. І раптам з гнязда клубком выкацілася на зямлю сіваваронка, а разам з ёю і зусім маленькая птушачка. Ды гэта ж сітавачка!

Птушкі, то паднімаліся з зямлі, то зноў падалі на яе. Каршуном кінулася на дапамогу сваёй сяброўцы другая сітаўка. На зямлю паляцела пер'е. Сіваваронцы ўдалося вырвацца ад сітавак. Яна падскочыла з зямлі, нясмела ўзмахнула крылцамі і падляцела да доміка сітавак. Тыя, як маланка, сіганулі да шпакоўні і загарадзілі сіваваронцы дарогу. Калі ж сіваваронка крыху наблізілася да іх — зноў суцэльны птушыны крык ускалыхнуў наваколле.

Сіваваронка болей не чапала сітавак. Сядзела мірна і спакойна, бо, пэўна, дайшло да яе, што гэтых дзвюх маленькіх і мужных птушачак ёй так і не перамагчы. А сітавачкі і не думалі адлятацца ад свайго гнязда.

Няпрошаная госця пасядзела яшчэ крыху, а потым спрытна кульнулася з галінкі і схавалася ў гушчыні сасновага бору.

## СМЕЛАЯ ВАВЁРКА

Аднекуль наляцеў моцны вецер. Трывожна зашумеў, загаласіў лес. Па небе пагрозліва сунулася чорная навальнічная хмара. Раскаціста, аж здрыганулася наваколле, ударыў гром. Неба прарэзалі стрэлы-маланкі. І раптам, як з вядра, паліў дождж. Цёплы, па-сапраўднаму летні.

Пакуль нагледзеў разлапістую сасну і схаваўся пад яе галіны — добра змок. Каля ног паставіў кошык. Ён быў поўны грыбоў, а на самым версе кошыка ляжалі з карычневымі капялюшыкамі тры баравікі.

«Хай пазайздросцяць у вёсцы, які я спрытны грыбнік», — думалася мне.

Праз некаторы час дождж прыкметна пацішэў. Тонкія, срэбныя ніткі яго аслабелі і ледзьве прабіваліся да зямлі. Я нагнуўся, каб узяць кошык і пакрочыць дамоў, але так і знямеў ад здзіўлення. У кошыку, на грыбах, сядзела маладая вавёрачка! Яна трымала ў пярэдніх лапках баравік і смела паглядала на мяне круглымі, як пацеркі, вочкамі. Не было ў кошыку і двух другіх баравікоў.

Я зразумеў у чым справа і моцна засмяяўся. А вавёрачка, прытрымліваючы лапкамі мой апошні баравік, схапіла яго вострымі зубкамі і хуценька скокнула з кошыка.

— Якая смелая вавёрачка! Такога дажджу не пабаялася! Пакуль я хаваўся ад яго, яна, бачыце, у гэты час да зімы рыхтавалася — баравікі прыпасала.

## МІШКА-МУЗЫКАНТ

Цёпла свеціць сонейка. На небе ні хмаркі. Нават лёгкі ветрык дзесь прылёг адпачыць — не закалышацца, зварухнецца на дрэвах ні адзін ліс-

# ВОСПА

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13).

**Зноў прыходзілі тыя Пані з суполкі мацярок і я сказала што ім неаддам сыночка. З лагера таксама прыходзілі пыталіся калі ім яго аддам не дачакаюцца маёй Галавы. Аможа неаддам Яго Нікому. Мой Радэ не яўрэйчык і Я не Яўрэйка і можа сапраўды мяне небудуць забіваць а толькі адправяць на Працу ў нямеччыну яны так кажуць. А можа яшчэ застануся гэтак з ім у шпіталі як яны могуць адлучыць мяне ад Майго Дзіцяці хіба ў іх няма Дзяцей. Прышліце мне яшчэ хоць крыху Бульбачкі. Калі маеце. Майму Радэ. У яго воспа Беднае маё дзіцятка Пакуль не пройдзе мяне не будуць чапаць я буду жывая Міліца.**

**Мой Радэ лепшае Як я з гэтага Радавалася Учора ўсё наверх высыпалася увесь рабенькі ад воспінак і гарачанькі але ўжо забаўляецца на Сонца глядзіць і ўсміхаецца і мяне гладзіць па твары нібыта разумее Сірацінка матчына. Доктар яму нічога недае гляджу толькі каб незастудзіўся. Калі пройдзе гэтая зіма навясне будзе мой Дзень нараджэння, 23 гады ці дачакаюся яго.**

**Срэта прыходзіў там зноў растрэльвалі Вялікую Партыю. Кажа добра што Радэ захварэў бо мяне забралі б ў лагер. Некажа ці будуць мяне растрэльваць кажа Небудуць калі дагэтуль нерастралялі. Але хто ім дасць веры горшыя за туркаў яны. Толькі мяне забяруць з Шпіталя кажа Хутка.**

**Атрымала айву. Дазволілі мне зварыць канпот толькі без цукру. А еў ён і сырую так хараша шкрабаў сваімі Зубкамі. І цягне ручкі просіць Яшчэ. Гарачкі болей няма. Высыпка нагнойваецца ідзе ў каросту. Доктар кажа што так і мае быць. Уначы несплю накрываю яго сачу каб незастудзіўся і гляджу на яго як Спіць маміна Ягнятка.**

**Сёння паслала Тую паперу падпісаную Начальству што вы можаце яго ўзяць калі прыдзе час. Падрыхтуйце ўсё для Радэ гэта ўжо будзе Хутка. Зранку прыходзілі да мяне камендант лагера немец новы неведаю як яго зваць і вуйкавіч і мой следчы Вітас і яшчэ нейкі Разглавала мянеіх. Няхай толькі Бог Бароніць майго Радэ.**

**Правяралі ўсіх Жанок і мужчын якія ў Шпіталі і мы Усе вельмі напалохаліся а мне Сорамна было. Вуйкавіч мяне пытаецца а ты ўсё яшчэ Тут з гэтым сваім Камуністаўскім байструком. Ая яму кажу Мой радэ не байструк Больш не магла. А ён раззлаваўся я бачыла ды Прыдаўся што нічога не пачуў. Потым яны нешта гаварылі з камендантам і вуйкавіч пытаўся Начальніка шпіталя што з малым і калі будзе Здаровае і сказаў Доктару каб не рызыкаваў Галавою А мне кажа пан камендант цікавіцца тваім сынам і пытаецца каму яго аддасі ці аддасі да суполкі мацярок каб яго Выхавалі. А я сказала**

**не. А камендант здзівіўся і праз вуйкавіча пытаецца чаго ж не хачу калі Пані добра Выхоўваюць і дагледзяць майго Радэ будуць добра карміць і ён будзе нетакі як цяпер а Чысты і Хараша дагледжаны і Прыгожы. А я сказала перакладзіце пану каменданту што ў Нас сярод сербаў не тыя Найлепшыя што Выхаваныя хараша дагледжаныя і чыстыя і што я не хачу каб Мой радэ быў Выхаваны што Нам Сялянам ад таго выхавання. Тады ўсе зніякавелі і замоўклі а камендант запатрабаваў каб яму ўсё пераклалі і закрычаў на іх. Потым яму Адзін немец хуценька растлумачыў і ён Засмяяўся і яшчэ больш Здзівіўся і запытаўся што ж я Рабіць буду з маім сынам і чаму не аддам яго тым Шаноўным сербскім паням. Тады я яму сказала няхай сабе яны і Шаноўныя ды яму Не Маці.**

**А яб хацела каб мой Радэ ведаў што былі ў яго Бацька і Маці і што мы яго Не кінулі каб Дзіця не думала што яно без Кораня. Каб праз гэта не было Няшчаснае. І таму хачу аддаць яго маёй Цётцы. Тут камендант зноў засмяяўся сказаў бравос Сербішэ і яшчэ нешта панямецку потым зняў Пальчатку дастаў з кішэні два Бісквіты і кінуў на Ложак майму Раду. Тады я ўзяла Бісквіты ад малога з рук падышла да таго немца што ведае Сербскую мову падала яму і сказала перадайце дзякуй пану каменданту Мы Бісквіты не ямо зубоў на гэта немаем мы прывычныя да Кашы кукурузнай а гэта няхай аддасць пану начальніку. Гэта я пра вуйкавіча калі я тут апынулася ён мяне надтаж біў. А немец**

**неведаў што рабіць дый узяў стаўшы смірна перад камендантам усё яму расказаў. А камендант толькі глядзеў на мяне потым узяў бісквіты і шпурнуў у плявальніцу. І тады яны пайшлі. А мне потым Шкада было майго Радэ што я адабрала ў яго Бісквіты і ўжо была дастала іх з плявальніцы але потым раздумала і выкінула праз акно. Потым зноў прыйшоў Начальнік Шпіталя і глядзеў на мяне Неяк Дзіўна і сказаў мне загадалі каб адразу паведаміў калі дзіця палепшае яно павінна быць адпраўлена адсюль як хутчэй з табою яму больш нельга заставацца і цябе тут больш трымаць не магу Гэта будзе праз Некалькі Дзён.**

**Дзякуйвам цётка Ёванка за моркаўку. Атрымала. І дзякуй табе што ты непабаялася калі Крычалі на цябе што Памагаеш мне і бярэш камуністаўскіх байструкоў каб іхнія маткі на магілах крычалі. А мой Радэ не байструк. Цяпер яму лепш хоць высыпка яшчэ не сходзіць. Калі ён пачне разумець вы яму ўсё раскажыце як было самною каб дзіця ведала. І пра бацьку яму таксама раскажыце пра Міле Стэфанавіча яго не адразу застрэлілі спачатку мардавалі Апошні дзень перада мною. А ён саромеўся і толькі крычаў нечапайце яе яна Невінаватая ніўчым выведзіце яе адсюль. Аяшчэ прышліце мне штонебудзь старое з воўны хачу Нешта перавязаць майму сыночку вітаю Міліца**

**Засталося мне яшчэ Чатыры Дні сказалі. Міліц**

**Усёяшчэ верыла і Верыла што застануся з Маім сыночкам Разам у шпіталі Далей і буду яго гадаваць і мой Радэ вырасце Вялікі і я яго Ажаню. І буду даглядаць Яго Дзяцей. Ды бачу што гэтага неможа быць. Сваёй галавы мне не шкада але якжа ім даравадь. тое што разлучаюць мяне з маім Дзіцяткам. Калі Маё Дзіця не яўрэйчаня. І Ніўчым Невінаватае. Гэтага немагу ім дараваць. Каб Зямля іхнія Косці павыкідвала каб Маткі іх мёртвых неаплакалі каб ад іхняга Племені і следу не засталося каб з іхніх горлаў ніколі Песня не загучала каб Любові дзіцячай яны аніколі незведалі.**

**Цётка Ёванка я распарола сваю камізэльку хачу звязаць сыночку Світарчык. Ужо і звязала частку толькі Воўна старая ірвецца. Гэтай ночы Неспала які тут сон усю ноч глядзела на Яго. Воспіны ў Радэ сталі яе кароста Чорныя ён Спіць і неплача болей Есць таксама Добра. Вы зім небудзеце мець ніякага клопату ён умяне Вельмі Добрае Дзіцятка спіць усю ноч так я яго прывучыла а таксама прывучыла каб неплакаў хто тут будзе цярпець Дзіця Якое плача. Есці ён можа ўсё грудзямі Болей некармлю няма Малака. Даю што маю. Каровіна малако можна напалам з вадою. А можна Моркаўку Я вару яе і дробна Дробненька пакрышу ён так Любіць а яшчэ Бульбачку**

**ён таксама любіць вараную ці смажаную. Хлеб ён таксама есць толькі муслае і мумлае падабаецца яму накрышаны ў малако любіць і яблыкі ў Канпоце альбо сырыя і Айву аднойчы мне перадалі і Грушку любіць таксама. Добра і кукурузную кашу гетажі на ёй мы трымаліся а неяк тут давалі яму і Манку гэта начальнік Прыпісаў бог яму хай аддзячыць.**

**У майго Радэ воспа амаль прайшла усё падсохла і злушчваецца. Толькі зноў з жывоцікам блага Панос. Атрымала Шкарпэткі дзякуй вам ды нашто яны мне Распусціла каб звязаць малому Шалік. Світарчык ужо амаль гатовы Звязала і другую палавінку пераду і спінку засталіся толькі Рукаўчыкі. Адна жанчына тут намалявала мне на Паперы першыя літары нашых імёнаў майго і Міле і Радэ я хачу іх вывязаць на Грудзях няхай будзе відаць хто ён і чый ёсць. Авы мне адкажыце якнебудзь напішыце на папяроснай паперы і ўтыкніце ў гічча Моркаўкі тут не надта строгі Кантроль дзе ж будзе мой Радэ спаць і ўсё як у вас у Хаце каб ведаць куды маё Дзіця пойдзе.**

**Я Купала яго калі магла ацяпер болей не Купаю праз гэтую Воспу баюся ён Любіць купацца толькі смяецца і ляпае Ножкамі і Ручкамі. Вы яго купайце раз на тры ці чатыры дні Цяпер больш і нетрэба ён ужо Вялікі. Спіць ён спавіты звязваю яму ножкі Начальнік кажа што нетрэба ды што ён угэтым разумее нехачу каб у хлопца Ногі былі крывыя каб мяне потым праклінаў. Спіць самною разам прывык гэтак а калі хто іншы бярэ дык адразу крывіцца бо дамянеж прывычны. Дык вы калі раптам пачне плакаць бярыце нарукі Гушкайце і Спявайце а крыху падманіце каб супакоіўся. А**

цік.

З гушчару лесу на пратаптаную сцяжынку выйшаў мядзведзь і, не спяшаючыся, накіраваўся на палянку, паўз якой праходзіла дарога з тэлеграфнай лініяй. Наблізіўся да першага слупа. Пастаяў крыху — бы нешта абдумваючы. Паглядзеў у адзін, другі бок дарогі, на лес. Потым стаў на заднія лапы, пярэднімі абхапіў слуп... і палез па ім уверх.

Але самае цікавае адбылося тады, калі ён дабраўся да самых правадоў. Дзвюма заднімі і правай лапамі Мішка моцна трымаўся за слуп. Левай узяўся за дрот, падцягнуў да яго сваё вуха і... пачаў іграць.

Адцягне кіпцюрамі дрот і тут жа адпусціць яго. І доўга слухае, як гудзіць, пераліваецца мелодыя.

І так паўтаралася датуль, пакуль дрот не вытрымліваў Мішкінай сілы і рваўся. Тады мядзведзь - музыкант падцягваўся да наступнага і ўсё паўтаралася спачатку.

І так да апошняга, аж покуль не канчаўся канцэрт.

Ай, ды Мішка!

Вось дык музыкант!

### ЛАСКА

Стаялі апошнія дні бабінага лета. Яно ў гэтым годзе выдалася як па заказу. Сонца шчодра дзялілася сваім цяплом. Толькі пажоўклае лісце на дрэвах: ды пасмы-ніткі павуціння, якое расцягнулі павукі-сувязісты, напаміналі пра восень.

Да канца дарогі было яшчэ за трыста кіламетраў. Трэба было крыху адпачыць, і мы звярнулі свой грузавік са Смаленскай шашы на прыпынак, дзе на слупе вісеў ярка намаляваны знак «Р» — прыпынак дазваляецца. І не паспелі выключыць матор машыны, як сын, цярэбячы мяне за рукаў, выкрыкнуў:

— Татка, глянь, вунь зврок нейкі ля машыны!

Я зірнуў з кабіны ўбок лесу і сапраўды ўбачыў, што ў метрах пяці-шасці ад нас стаяла ласка.

— Гэта ласка, сынок, — сказаў я.

Жоўта-серабрыстая, на кароценькіх ножках, з высока ўзнятай маленькай галавой — хацелася глядзець і глядзець на яе.

«Кіньце ласуначак, я ж чакала...» — быццам позіркам гаварыла ласка, гледзячы на нас.

Алег зразумеў просьбу звярка, узяў кавалак белага хлеба, ціхенька адчыніў дзверцы кабіны і гэтак жа ціхенька, каб не патрывожыць ласку, ступіў на зямлю.

Ласка адскочыла ад яго яшчэ крокаў на пяць. Тады сын паклаў хлеб на зямлю і вярнуўся да машыны. Звярок маланкай сігануў да ласунка, схапіў яго, гэтак жа хуценька адскочыў назад і схаваўся.

Калі ад'язджалі з прыпынку, я і сын уважліва разглядалі тое месца, куды знікла з хлебам ласка. Але звярок больш не паказваўся.

### АПЕНЬКІ-ВЕРХАЛАЗЫ

Павярнуў з гасцінца і пайшоў па скошаным лузе. Наперадзе золатам блішчэлі кроны стройнага бярэзніку. Крыху воддаль ад яго цякла невялікая рачулка, выгінаючы і падстаўляючы пад сонца сваю срэбную спіну.

Скончылася жніво. У паветры плыло павуцінне. Яно чаплялася за галінкі дрэў, упляталася ў валасы, прылiпала да твару.



Лясныя акрабаты.

Фота А. ГЛІНСКАГА.

У бярэзніку кожны год багата радзілі апенькі. Дай, думаю, наведаюся і на гэты раз. Паставіў на зямлю кошык, прайшоў туды-сюды, добра прыгледзеўся. Гляджу, ажно на самай сцяжынцы, ні кусціка, ні бярозкі каля іх, два маладыя з чырвонымі, як каліна, капялюшыкамі падасінавікі сядзяць. Прыкленчыў каля іх, пасядзеў так крыху, пакуль асмеліўся прыгажуноў нажыкам скрыжыць.

Воддаль ад падасінавікаў знайшоў адзін каля аднаго пяць падбярозавікаў: на тоўсценькіх ножках, як у баравічкоў, толькі капялюшыкі не карычневыя, а белыя. Скрыжыў я падбярозавікаў і далей паціху па бярэзніку іду.

Раптам сярод бяроз убачыў іх сяброўку, бярозу-сухарляўку. На ёй ні аднаго лісціка, толькі голле, што пруцікі, ва ўсе бакі тырчыць. Чаго ж ёй, беднай, жыць не захацелася? Падыходжу да самай сухарляўкі і дзіўлюся: усё дрэва ад зямлі і да самай макаўкі ўсыпана апенькамі. Каб дастаць самыя верхнія, трэба якую драбіну майстраваць.

На гэтай бярозе-сухарляўцы накрыжыў апенек ацэлы кошык. А тыя, якіх не дастаць, хай вавёркам на зіму застаюцца.

цяпер прыміце найлепшае прывітанне ад мяне міліца Стэфанавіч.

Вы цётка Ёванка не Бойцеся мой радэ не якоенебудзь бруднае дзіця а калі крыху апісяецца я неспяшаюся перапавіваць каб не застудзіўся і вы гэтак рабіце. Ён у мяне і некакае многа толькі адзін два разы калі Здаровенькі Цяпер болей толькі таму што з жывоцікам у яго блага Панос А так вам недавядзецца многа мыць заім Пялёнкі. Пялёнак у яго трое з маёй кашулі зраблю яшчэ двое Нашто мне Кашуля а яму Хопіць. От перабіраю рэшту лахманоў каб пашыць яму Шапачку дзве кашулькі а Світарчык ужо ёсць крыху велікаваты алеж ён будзе ўмяне расці. Гэта яму напакуль Будзе Дастаткова. Аяшчэ калі паспею вывяжу яму Шкарпэткі з воўны.

Мой Радэ уначы плакаў зноў. Баліць яму Жывоцік Гаротнаму майму Дзіцятку. Усю ноч насіла яго. Потым ён крыху заснуў ая і Далей яго насіла і Глядзела яшчэ крыху наяго пагляджу. Воспа зяго яшчэ не сышла.

Учора вязала старалася Баялася ці паспею. Вы рыхтуйцеся гэта Будзе за Два-тры дні.

Забрала на складзе мне дазволілі усё што мела з адзення усё памыла і Падрыхтавала. Пашыла Шапачку і кашулькі толькі адна засталася без Рукаўчыкаў Нехапіла матэрыі. Атаксама падрубіла і Пялёнкі. Каб мела дзіця. Прасіла каб мне дазволілі памыцца. Аяны кажуць рыхтуешся нібыта да Вяселля. Я ім Нічога неадказала але думаю там куды я Іду чалавек павінен быць чысты. Думала і хустку выпрасаваць ды няма Праса ну нічога я яе якнебудзь на Калене разгладжу.

Няма многа Часу каб вам пісаць патрэбна яшчэ імёны сыну вывязаць Маё і Ягонае і Бацькава начальнік мне сказаў што можа Заўтра. А можа іне яшчэ. Заўтра Субота дык калі не Будзе заўтра тады пакінуць мяне да Панядзелка яныж у Нядзелю неробяць адпачываюць і моляцца Богу. Вы калі можаце знайдзіце Срэту Жандара ён з майго краю з Пракупля ён вам паможа. Дайце яму крыху грошай. Калі маеце.

Я памылася і высушыла ўсе лахманы. Усё назад занесла на Склад такі парадак але як Павядуць мяне каб быць Гатовай. Начальніка ўчора зноў пыталіся прамяне. Ён сказаў што майму Раду лепш Мусіў. Мой Радэ сапраўды палепшаў толькі што Панос непраходзіць. Хутка Ноч тут рана гасяць Святло але я папрашу ахоўніка каб мне дазволілі пабыць пры Лямпе. Дзеля Радэ. Тады вам і напішу якналежыць пра ўсё, Што Трэба. І наяго Пагляджу яшчэ Трошкі. А калі непаспею вы ўжо Беражыце Майго Маленькага і Выбачайце міліца Стэфанавіч родам з Пракупля вёска Стубліны

Запалілі мне Лямпу. Усё Сабрала Як Трэба і звязала Матузком калі мне скажуць Выходзь каб толькі ўзяць і пайсці Яны нечакаюць Многа. Усё памытае з дзіцячага толькі непракіпячанае няма Дзе. На Радэ адзела Новую кашульку тую што пашыла і Новую шапачку ўчора памерала вельмі датварыку яму Хораша. Апрану яму і світарчык. Вязанне маё выйшла крыху затоўстае пража ўжо патлелая так што мусіла браць у тры ніці тамуй Завялікі алеж Радэ мой Вырасце. На світарчыку на грудзях будуць тыя Імёны. Гэта каб Адразу ведаў Хто ён такі. Трэба гэта. Аяшчэ

я спаўю яго у падвойныя пялёнкі і ў сваю старую спадніцу і ў Ягоную коўдрачку і ў палову Салдацкай коўдры гэта яму падаравалі нейкія Жанчыны калі Нарадзіўся. Разам з ім будзе яшчэ Трое пялёнак Адныя Новыя з маёй кашулі двое старыя крыху падраныя дык я іх пазашывала. І яшчэ Шапка цёплая Старая гэта яму адзін Дзядзька з Ягадзіна калі ішоў на Растрэл скінуў з Галавы і сказаў аддайце Таму дзіцяці каб немерзла дык я Ножкі яго ў гэтую шапку захутвала. І чунікі старэнькія Гэта я сама пашыла з латак. Аяшчэ на ножках уяго Будуць Шкарпэткі Новенькія з воўны Гэта я звязала з тых шкарпэт якія вы мне Прыслалі з іх Выйшлі таксама і Рукавічкі і Шалік няхай носіць. І будзе наім Мой пояс тканы Ён замест спавівача. Ды і наўспамін пра мяне няхай застанецца. А больш нічога.

Ён у мяне далікатны пераварэў і на Жывоцік і з Горлечкам каб і яшчэ чаго небыло гэтае адолеў. Атак ён Здаровенькі. Есці можа Усё ціто кашу якую густую з малаком атой з вадою ціто супчык. Хоча хлебца але я яму зусім Мала давала бо немела. Можа есці капусту вараную тое што нам тут давалі і Квасолю калі памнеш. Любіць моркаўку вараную як яе дробна дробненька пакрышыш і Яблыкі таксама Любіць сырыя і ў Канпоце больш любіць з цукрам. І Грушку таксама мне неяк была прынесла адна Таварышка дык я яму давала Усё гэта ён можа есці і сырое і Зваранае. Любіць і манку і рознае ўсё што можна есці вы толькі яму Давайце.

Характарам ён таксама Добры неплача дужа толькі калі Хворы ды галодны наплакаўся мой Небарачка Сыночак. Уначы спіць і непрачынаецца калі засынае негалодны. Я яго спавіваю каб ногі небылі крывыя думаю што і вы гэтак будзеце Спавіваць. Мне так здаецца а вы цяпер як сабе хочаце бо ўжо вы яму Маткай будзеце дык і рабіце Так як Матка. Калі яму нешта забаліць і пачынае плакаць Любіць каб я спявала і тады перастае плакаць толькі Глядзіць сваімі Вачанятамі Рабіце і вы гэтак.

А калі пачне Разумець дык вы ўжо яму ўсё Добра раскажыце усё як было са мною і з яго нябожчыкам Бацькам. Яго звалі Міле Міадраг Стэфанавіч многа над ім гаротнікам здзекваліся цвікі забівалі пад пазуры ды яшчэ і Вока Правае зусім выбілі. А расстралялі ў Лапаве так я чула а ці дакладна неведаю. А я Міліца Стэфанавіч у дзявоцтве Мілоевіч з вёскі Стубліна пошта Вялікая Радуша. Там яшчэ маю нейкіх дальніх сваякоў дык Радэ калі вырасце няхай наведае можа прызнаюць. І таксама няхай наведаецца ў Жырава гэта недалёка недзе пятнаццаць кіламетраў там яго бабуля гэта мая Свякруха мілева Стэфанавіч дзеда няма. Ёсць яшчэ і цётка ў яго там а Дзядзька ў Палоне дык няхай і з імі пабачыцца.

Ая маю Цётку ў Крагуеўцы яе муж Ёван станісаўлевіч шавец трымае майстэрню на галоўнай вуліцы толькі неведаю ці Жывыя. Дык калі вы не зможаце яго гадаваць Занясіце да іх можа Цётка мая яго Возьме. Альбо занясіце ў Жырава Бабуля яму Узрадуецца яна Больш Унукаў немае. Ну а калі няма іх у Жывых аці нехочаце нікому яго аддаваць Вазьміце сабе каб вам быў Замест вашага Сына. Як толькі Радэ пачне ўвас плакаць вы крыху Палюляйце і Паспявайце ён гэта Любіць і крыху Падманіце яго Зараз прыдзе Мама зараз прыдзе Мама і ён супакоіцца. А потым і Прывыкне. Ну а больш няма Чаго вам напісаць Толькі шлю вам Паклон нізкі і Адыходжу Туды адкуль Ніхто Не вярнуўся няхай Вам усё будзе якнайлепш няхай бог ахіляе а вы мяне Выбачайце міліца Стэфанавіч.

І яшчэ вас Прашу знайдзіце Срэту Жандара каб ён памог ён вам зможа сказаць што Было самноюю. І дзе мяне Закапалі І яшчэ прыдзіце у Чацвер у Лагер там прымаюць перадачы з Дванаццаці да дзвух. Дык калі я Буду яшчэ вы толькі Паведаміце як там Мой Радэ як Мой маленькі асвоіўся у Чужой Хаце і ці яму палепшала з жывоцікам. А калі мяне небудзе значыць мяне небудзе.

З сербскахарвацкай пераклаў
Іван ЧАРОТА.

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# ШУКАЮЧЫ ЗАГАНЫ

Бытуе крылаты выраз, што прачытаць мастацкі твор (пасапраўднаму прачытаць) не лягчэй, чым напісаць яго. Аднак такога ніяк не скажаш, калі пазнаёмішся з нататкамі М. Карповіч, выкладчыцы кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна, якія змешчаны ў «ЛіМе» за 25 верасня г. г. пад катэгарычным загалоўкам «Не ленавацца папраўляць». Аўтарка ў пачатку згадала рашэнні апошніх пісьменніцкіх з'ездаў і спаслалася на аўтарытэты. Прыём, мякка кажучы, не новы і крыху шкалярскі. Падумалася наконт дасведчанасці М. Карповіч у прадмеце гаворкі. На жаль, не памыліўся. Развагі аўтаркі аб апавяданні У. Рубанава «Вечары на балоце» выяўляюць, што яна не надта зразумела твор і яго моўны лад. Паказ недахопаў — тэндэнцыйны, замест аналізу — падлік азначэнняў, шуканне ў самым простым, лагічным, жыццёва-праўдзівым нейкай штучнасці, надуманасці. Ці ж так, расчляняючы на часткі мастацкую тканіну твора, можна аналізаваць яго мову? Непераканаўчая, напрыклад, яе прэтэнзія да «сонца, ужо нізкага, бледнавата-пунсовага і мяккага, бы перазімавалая журавінка». Мне думаецца, гэта трапнае і дакладнае параўнанне. М. Карповіч не адчула гэтага, калі на дапамогу зноў прыбегла да аўтарытэта — заўвагі А. М. Горкага наконт фразы «Серебряным рублем катится луна». Прыбегла — і зноў няўдала: бо рубанаўскае параўнанне неадэкватнае таму, пра якое Горкі далікатна і праўдзіва зазначыў: «Маловата». Прадузятасць адчуваецца і ў далейшых яе папроках аўтару, дзе яна адзначае паўторы слоў. Калі аналізаваць такім чынам, то можна падобныя промахі знайсці ў класікаў — аўтараў «Войны и мира» ці «Мёртвых душ».

Што ж датычыцца аналізу моўных недахопаў у маім апавяданні «Шапэн», то пра ўвагу аўтаркі да твора красамоўна гаворыць такі факт: яна нават прозвішча маё падае няправільна. Акрамя таго, неабавязкова, пішучы пра чайку, нагадваць, што «ў яе дзве нагі». А калі гаворыш пра вочы чалавека, дык падразумяваеш, што іх два. Гэта ж так натуральна. Ненатуральна тое, што аўтарка занялася арыфметычным падлікам. Пошукам заган.

Я, мабыць, і не дасылаў бы гэты ліст у «ЛіМ», аўтарытэтнае для мяне выданне, але ж прыкра, што развагі гэтыя з'явіліся пад рубрыкай «Культура мовы».

М. ДУБОЎСКІ.

г. Мінск.

**АД РЭДАКЦЫІ.** Ліст М. Дубоўскага — не адзіны водгук на публікацыю выкладчыцы універсітэта М. Карповіч «Не ленавацца папраўляць», змешчаную ў «ЛіМе» 25 верасня г. г. пад рубрыкай «Культура мовы». Аўтар другога ліста таксама папікаў яе, што яна, дакараючы іншых за моўныя агрэхі, сама піша, маўляў, зусім не ўзорнаю моваю.

Што ж, мусім прызнаць, што артыкул М. Карповіч сапраўды трэба было б нам адрэдагаваць больш старанна, як, дарэчы, і апавяданне У. Рубанава, моўны аналіз якога аўтар артыкула рабіла. Тым не менш рэдакцыя ў цэлым падзяляе накіраванасць яе выступлення. Мова многіх твораў прозы і паэзіі, асабліва тых, што выходзяць з-пад пяра маладых і маладзейшых аўтараў, на жаль, не вызначаецца ні багаццем, ні свежасцю, і, натуральна, пытанні павышэння культуры пісьма стаяць на парадку дня.




Ніл ГІЛЕВІЧ

# І З СЭРЦАМ, І З ПЕРЦАМ

## Да пытання аб класіфікацыі паэтаў

Паэт на дачы з'еў ранет.
Пасля ўздыхнуў і склаў санет —
Аб тым, наколькі розны свет
І розныя паэты:
Чатырохсоткавы паэт,
І паўгектаравы паэт,
Зямлі бацькоўскае паэт,
Паэт усёй планеты...
А ва ўласных тамах —
Ні радка для душы.

## Песенька шчаслівага дзеда

Дайце, дайце аўтаручку
І паперы пачкаў пяць —
Напішу раман пра ўнучку,
Каб было вам што чытаць!

Ой, разумніца-малышка
Гэта ўнучачка мая.
Два гадкі ўсяго, а ў кніжках
Знае толк не менш, чым я!

Разгарнула раз даведнік,
Што ў партрэтах нашых спрэс,
І глядзіць — ну, быццам нейкі
Мае творчы інтарэс!

Тыцне пальчыкам, чарцяка,
І — зусім не па графе —
Атэстуе: «Дзядзя — бяка!
Дзядзя — кака! Дзядзя — фэ!»

А як мой партрэт, прызнацца,
Там агледзела яна —
Закрычала: «Дзедзя — цаца!
Дзедзя — ляля! Дзедзя — наш!»

А то раптам — на здзіўленне —
Валачэ ка мне мой том
І гукае: «Дзедзя — геній!»
Ды так моцна — на ўвесь дом.

Я кажу: «Не смейся, шэльма,
І не здзекуйся, бо дам!»
Хоць ад радасці страшэннай
Аж увесь расплыўся там.

А яна — у захапленні —
Скача, бегае, крычыць:
«Дзедзя — геній! Дзедзя геній!»
Божа, як яно гучыць!..

Я не падкі на цытаты,
Ды, напэўна ж, нездарма
Кажуць: вуснамі дзіцяці
Мовіць ісціна сама!..

Дайце ж, дайце аўтаручку
І паперы добры стус:
Напішу раман пра ўнучку —
Скіну з сэрца творчы груз!

## Трагедыя паэта-эстрадніка

За эстрадай — эстрада!
Канцэрт — на канцэрце!..
Прашумееў ты, браток, —
Як вятрыска ў трысці.
Што паэту
Звычайна даецца па смерці —
Ты ўсё выбраў
І выграб усё —
Пры жыцці.

Апантана,
Няўрымсна,
Аслепла,
Бяздумна
Ты ганяўся за славай,
Хапаў барышы...
Вось і старасць...
І што ж?
Зябка, пуста і сумна.

## Іменем навукі

«Што ты пішаш, баламутнік,
Аб гісторыі далёкай! —
Закрычаў у злосці лютай
Пані Догмы верны лёкай. —

Што ты ўзносіш? Што ты хваліш?
І куды ты цэліш-хіліш?
Хочаш даўні хлам і залеж
Прыцягнуць на слаўны фініш?

Пра які ты трубіш Статут?
Пра якіх князёў у Крэве?
Пяць вякоў назад хвастаты
Продак твой сядзеў на дрэве!

А Гусоўскі ды Скарына,
Будны, Цяпінскі, Зізаній —
Гэта міф, які стварыла
Хэўра «контры» па ўказанні!

Дый Кастусь, што быў са шляхты!
Дый газетка «Наша ніва»!..
Не на той узбіўся шлях ты,
Каб разглядзець іх праўдзіва!

Так што кінь свае ты штукі
Ды шрайбуй, як я шрайбую.
Ведай: іменем навукі
Не прашу, а патрабую!..»

## Спрэчка над Іслаччу

Не на з'ездзе, не на сходзе,
А над Іслаччу ў бары
Усхадзіліся ў нязгодзе
З горкім лёсам песняры.

Спрэчка ўзнікла нечакана:
— Мы ссівелі ўжо — і што ж?
Дзе адзнакі?! Дзе пашана?
Нас не цэняць а ні ў грош!..

Так успыхнуў бліскавічна
Сапраўды сівы паэт.
І ўсміхнуўся іранічна
У адказ яму сусед:

— Гэ! Каб сёння майстру слова
Велькі гонар заслужыць —
Перш за ўсё, як прадумова,
Трэба доўга-доўга жыць!
Трэба, дыхаючы роўна,
Без надрыву і згрызот,
Мець бычынае здароўе
Да васьмідзесяці год!..

— Славу дзеляць не па ўзросту, —
Запярэчыў трэці бард. —
Дапяеш да дзевяноста —
І не будзеш цэшкі варт!

Калі ты на лацкан з драпу
Хочаш знакі надзяваць —
Трэба ўмець, брат, храпу, храпу
Шырачэзна надзімаць!

Трэба з кожнае трыбуны
Трубным голасам грымець!
Хто ж нягучна шчыпле струны —
Тым рэгаліяў не мець!..

— Дык за што ж мы крыўду
церпім? —
Узгарэўся першы зноў. —
Хто наш лёс пазначыў цернем,
Што — ні званняў, ні чыноў?...

І, нібы ў глухой надзеі
Хоць на нейкія дары,
Запытальна паглядзелі
На чацвёртага сябры.

І сказаў паэт паэтам,
Словы зводзячы ў радкі:
— Калі клопат ваш пра гэта —
Супакойцеся, браткі.

Будзе ўсё вам: званні, знакі,
Будзе дошка на сцяне...
Нават будуць выць сабакі
У бацькоўскай старане.

## Залежнасць

То матыў, то вобраз, то радок
Ад мяне к табе пераандруе...
Не саромся, пазычай, браток:
Бог замысліў так — і бог даруе.

Думаю, лагічная ўпаўне
І залежнасць, што адкрыў я ўрэшце:
Чым ты болей крадзеш у мяне —
Тым мацней абкрадзенае бэсціш.

## «Рамантык»

Ах, як узнёсла ў кожным творы
Усё жыццё ён славіў культ
Красы, свабоды, непакоры!
Якім крылатым слыў! Пакуль...

Пакуль сусед на сорак тысяч
Аднойчы выйгрыш не прыпёр.
Рамантык горды з гора высах,
Счарнеў на вугаль — і памёр.

## Пытанне

Навошта так, таварышок,
Ты пад мяне пляцеш інтрыжку?
Каб свой пасад падвысіць крышку?
Падняцца рангам на вяршок?

Пускаеш шэпты пра «грашок»,
А сам... Ды ты ў грахах, мой родны,
Як у дзядах сабака збродны...
Навошта ж так? Таварышок?..

## Папярэджанне

*У сувязі з юбілеем фотамайстра Ул. КРУКА.*

І на Парнаскай верхатуры
Ты мусіш помніць, літ. байструк:
Не быць табе ў літаратуры,
Калі цябе не «шчоўкне» Крук.




*з 19 па 25 кастрычніка 1987 года*

20 кастрычніка, 20.10

**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА.**

Выступленне народнага ансамбля танца «Лявоніха» Віцебскага гарадскога Дома культуры.

21 кастрычніка, 19.50

**НАТХНЕННЕ.**

Сустрэча з удзельнікамі Рэспубліканскага семінара творчай моладзі. Вядзе перадачу паэт Ю. Голуб.

22 кастрычніка, 19.50

**«НА ПРЫНЕМАНСКІХ ПРАСТОРАХ».**

Літаратурна-мастацкі часопіс.

Пра навалёў-умельцаў мінулых стагоддзяў, якія ўпрыгожвалі старажытны Гродна, пойдзе гаворка ў першым сюжэце тэлечасопіса. Другая старонка прысвечана 190-годдзю з дня нараджэння паэта-дзекабрыста Кюхельбекера.

24 кастрычніка, 13.05

**ПРЭМ'ЕРА КНІГІ.**

У. Хадыка. «На ўзвеях дзён».

24 кастрычніка, 16.00

**«ЗЯМЛЯ СУСТРАКАЕ АГНЯМІ...»**

Перадача знаёміць з творчасцю пісьменніка А. Сульянава.

24 кастрычніка, 17.05

**ПЕУЧАЕ ПОЛЕ.**

Рэспубліканскі тэлефестываль самадзейных харавых калектываў.

Выступаюць удзельнікі мастацкай самадзейнасці Віцебскай вобласці.

24 кастрычніка, 23.45

**СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ.**

Канцэрт інструментальнага джаз-ансамбля пад кіраўніцтвам А. Бурштэйна.

25 кастрычніка, 13.45

**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА.**

Канцэрт калектываў мастацкай самадзейнасці Гомельскай вобласці.

25 кастрычніка, 15.15

**ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ.**

Л. Гуцін, Р. Баравікова. «Кіно».

25 кастрычніка, 17.30

**КАНЦЭРТ СІМФАНІЧНАГА АРКЕСТРА БЕЛАРУСКАГА ТЭЛЕБАЧАННЯ І РАДЫЁ.**

У праграме творы беларускіх і замежных кампазітараў. Мастацкі кіраўнік і дырыжор — заслужаны артыст БССР Б. Райскі.

25 кастрычніка, 18.35

**«МЕТРАНОМ».**

Музычна-публіцыстычная праграма.

У перадачы прымаюць удзел Камерны маладзёжны хор (кіраўнік І. Мацюхоў) і вакальны ансамбль «Камерата» (кіраўнік А. Шыкуноў).

## ПАПРАЎКА

У аб'яве Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі аб конкурсе на замяшчэнне вакантных пасад прафесарска-выкладчыцкага складу («ЛіМ» за 9 кастрычніка г. г.) трэба чытаць:

Кафедра фартэпіяна:
прафесар — 1
дацэнт кафедры — 1
ст. выкладчык — 2.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 02297

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі—33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.